РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №24 (133), 15 ЧЭРВЕНЯ 1994




■ Укладка стар. 5 — 12.

## Крылы святаў

15 чэрвеня

15 чэрвеня

**Віцебск** сустракае гасцей. Яны прыехалі на **Першы міжнародны пленэр імя М.Шагала** з Германіі, ЗША, Расіі, Турцыі, Ізраіля, Польшчы, Італіі, Грэцыі, Францыі...

**Пінск** вітае сяброў на **Першым міжнародным фестывалі фальклору.** У горадзе над Пінай сабраліся спевакі і музыкі з Нідэрландаў, Польшчы, Расіі, Украіны, Фінляндыі, Літвы, Узбекістана...








Паміж дажджыстымі, хмарнымі днямі гэты выдаўся цёплым і сонечным — увесь час даводзілася саступаць у цень, далей ад камяністай дарожкі, усцеленай духмяным аерам, галінкамі бэзу і беленькімі кветкамі — так у манастыры сустракаюць высокіх духоўных асоб. Спаса-Еўфрасіннеўская царква, як белая свечка, высілася на прыгорку, і ўсе астатнія будынкі і храмы былі як бы пры ёй, і набажэнства, якое ішло побач, у саборы, было як бы прэлюдыяй да галоўнага — вынасу мошчаў святой Еўфрасінні Полацкай, што бывае кожны год у Яе дзень — 5 чэрвеня.

Мы ўжо паведамлялі, што сёлета, па ініцыятыве Усебеларускага жаночага фонду, святкаванне Дня беларускай асветніцы, першай на ўсходнеславянскіх землях святой Еўфрасінні Полацкай адбывалася асабліва ўрачыста. І запоўненая людзьмі — паломнікамі з усяе Беларусі — досыць вялікая прастора манастыра была таму пацвярджэннем. Сёлета ў Полацк, апроч вернікаў, якія стараюцца абавязкова пабываць у Спаса-Еўфрасіннеўскай царкве ў гэты дзень, прыехалі многія дзеячы культуры і навукі — Іван Чыгрынаў, Анатоль Кудравец, Вольга Іпатава, Анатоль Сабалеўскі, Сяргей Законнікаў, паэт з Масквы Сяргей Красікаў, заснавальніцы фонду Валянціна Коўтун, Людміла Паўлікава-Хейдарава, Святлана Гарбунова і іншыя. Зрэшты, некаторыя з іх — палачанка Нэля Шчасная, Уладзімір Арлоў, Сяргей Тарасаў, які ля Сафійскай царквы праводзіць раскопкі, — былі тут не гасцямі, іх дзейнасць уплялася карэннем у тутэйшую зямлю і ёю была выгадаваная...

"Па сутнасці, — думалася тут — усе мы родам з Полацка. Тут некалі засноўвалася старажытная наша дзяржава, нараджалася і мацнела свая, уласная княская дынастыя, якая бараніла краіну ад варожых нашэсцяў, тут унучка мудрага Усяслава, ігуменя Еўфрасіння, мірыла князёў, што пагрузлі ў міжусобіцах, стараючыся ўтаймаваць разбураны дух патомкаў Рагвалода". Аб міратворчай місіі Еўфрасінні добра гаварыў Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, мітрапаліт Філарэт. І гэта было дарэчы — палітычная напружанасць перад прэзідэнцкімі выбарамі дасягнула і ціхага манастырскага двара: народ, што не змясціўся ў саборы, дзе ішло набажэнства, віраваў наўкол Станіслава Шушкевіча, які таксама прыехаў у Полацк, альбо, выстраіўшыся ўздоўж усцеленай зёлкамі дарожкі, чакаў выхаду духавенства з сабора. Пагаворвалі аб прыездзе Вячаслава Кебіча, таму што над манастыром кружыўся ваенны верталёт. І пад канец набажэнства гэта адбылося. Спачатку ўладна прайшлі па яшчэ жывых сцяблінах, што хрумсталі пад іх нагамі, "амонаўцы", прывычна распіхваючы бабулек, што ў час не саскочылі ўбок, пасля, праз колькі хвілін, прэм'ер-міністр прайшоў у храм святой Еўфрасінні, які да гэтага быў зачынены, а пасля, ля вынесеных мошчаў, трымаў прамову.

Цікава стаяць у натоўпе, які зверху, мабыць, здаецца застылай масай, што толькі ціха варушыцца, выслухоўваючы прамовы высокіх гасцей! Каментарыі тут былі розныя — некаторыя вернікі шчыра ўзрадаваліся абяцанню прэм'ера даць золата на рэстаўрацыю крыжа Еўфрасінні, што прапаў падчас Айчыннай вайны. Але агульны настрой быў далёка не міралюбны:

— Не верыцца вушам — ці ж не яны, гэтыя перафарбаваныя камуністы, рушылі храмы і змагаліся з рэлігіяй?

— Як успомню — я ж працавала на пошце, давала падпіску захоўваць таямніцы, дык мне ў храм хадзіць было нельга. Колькі я пераплакала з-за гэтага... У мяне дзядзька быў святаром, вучыўся ў Вільні, дык я гэта хавала ад улады...

— Давялі да жабрацтва, а цяпер абяцаюць...

Але, мабыць, ярчэй за ўсё выказалася старэнькая бабулька, што горка загаварыла да навакольных:

— Як убачыла, што гэны хлопец, стоячы над святымі мошчамі, нешта жуе ды жуе, уся душа перавярнулася... Такі дзень мне сапсавалі...

І яна паказвала на маладога "амонаўца", які, у ліку іншых, што "ахоўвалі" мошчы ад бурлівага натоўпу, стаяў з каменным тварам, утрымліваючы напор, і сапраўды бесперапынна жаваў нейкую сваю жвачку...

Вядома, не прэм'ер быў вінаваты ў тым, што маладыя хлопцы, прыходзячы ў святое для многіх тысяч беларусаў месца, пазводзяць сябе кашчунна. Але — нашто тут "амонаўцы"? Нашто гэтая гульня ў святасць, якой няма і не можа быць у душы тых, хто стаяў "наверсе" ў камуністычнай кагорце?

І ўсё ж свята было. Яно было ў тысячах душаў людзей, што прыязджалі і прыходзілі сюды ў самыя змрочныя часы разгулу атэізму. Яно было і ў тых людзях, што прыйшлі сюды, каб далучыцца да святла веры і пашаны.

Убачыўшы ў нашых руках дыктафон і камеру, да групы журналістаў падышоў немалады чалавек і задаў пытанне:

— А ці ведаеце вы, што тут, побач з храмам, загінула больш за 20 тысяч чалавек?

І Герасім Мікіціч Первянёнак павёў нас пасля набажэнства праз лагчыну і ручай на ўзгорак, дзе стаяў вялізны камень з надпісам, які сведчыў аб тым, што ў гады вайны тут быў канцлагер і немцы замучылі мноства ваеннапалонных і грамадзянскага насельніцтва. Па дарозе расказваў пра сябе — нарадзіўся ва Ушацкім раёне, у гады вайны адзінаццацігадовым хлопчыкам быў сувязным у партызанскай брыгадзе, але, нягледзячы на тры дакументальных падцверджанні гэтаму, не атрымаў пасведчання партызана. Працаваў да пенсіі шафёрам на аўтабазе. Ці веруючы? "У душы заўсёды верыў, але, хаця маці мая пастаянна хадзіла ў царкву, я не прывык да службаў. Цяпер проста зайду ў царкву, пастаю, успомню пра сваіх загінуўшых сяброў. А маці сёння не прыехала — упершыню не прыехала на Дзень Еўфрасінні. Ёй ужо 84 гады, і цяпер дабрацца сюды няпроста, а яна ж жыве ў 40 кіламетрах ад Полацка..."

... Такіх бабулек — згорбленых, з кіёчкамі — шмат было ў саборы і пасля на лаўках вакол Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы. Так, гэта яны, часам паўпісьменныя, замучаныя непасільнай працай беларускія жанчыны, не давалі згаснуць памяці пра святую Еўфрасінню... Гэта яна, Царква, несла гэтую памяць у самыя неспрыяльныя для нашай спадчыны часы. Добра, што ўсё актыўней уключаецца ў гэтую працу беларуская інтэлігенцыя.

Яна, полацкая інтэлігенцыя, запоўніла пад вечар Сафійскі сабор, дзе прайшоў канцэрт, яна сустрэла апладысментамі Станіслава Шушкевіча, шчыра прымала выступленні міністра культуры і друку Анатоля Бутэвіча, мэра горада Канстанціна Хоміча, саветніка па культуры пасольства Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Марэка Галкоўскага, артыстаў, што выконвалі духоўныя спевы і музыку, якія асабліва кранулі душу тут, пад купалам амаль тысячагадовага храма, пабудаванага яшчэ Усяславам. Так, палачане маюць бясцэннае багацце, якое можа — і павінна! — зрабіць Полацк турысцкай Мекай: старадаўнія храмы, будынкі, шматвяковую гісторыю.

Па першым часе днём, які можа штогод збіраць тысячы і тысячы турыстаў, зможа стаць Дзень святой Еўфрасінні Полацкай.

Але — для турыстаў патрэбныя гасцініцы, стаянкі для аўтамабіляў, гарачая вада ў нумарах, кафэ і крамы з гарачай кавай, прысмакамі, сувенірамі, буклетамі, планамі горада і тысячамі дробязей, амаль ніводнай з якіх, як і дзесяткі гадоў назад, тут ізноў не было... Можа, усё ж варта было прыцягнуць прыватную ініцыятыву? Можа, развіваючыся, менавіта яна дапаможа ў галоўным — мець кожнаму, хто захоча, магчымасць прыехаць у старадаўні горад, спыніцца ў гатэлі, атрымаць напракат машыну ці іншы транспартны сродак, каб аб'ехаць з планам у руках усе вартыя ўвагі аб'екты? Пакуль жа, прытуліўшыся спінамі да сцяны, сядзелі пад манастырскім будынкам стомленыя паломнікі, елі хлеб, прынесены з сабою, маці з дзецьмі, ды да бойкі спрачаліся за кінуты некім даляр жабракі.

І напрошвалася аналогія — мы адначасна і багацеі, у якіх было і захавалася так многа ад старажытнай спадчыны, і — жабракі, якія не ўмеюць распарадзіцца тым, што ёсць...

А над усім гэтым — над раздушаным абцасамі аерам, над паломнікамі, над пабеленымі будынкамі і бліскучымі крыжамі, над нятленнымі мошчамі славутай палачанкі, што беражліва ляжаць у старадаўняй царкве, з захаванымі пад барбарынскай пабелкай фрэскамі, плылі як шмат стагоддзяў таму, аблокі, і мы аказаліся ўключанымі ў вечнасць, і, мабыць, усе, хто тут быў, падсвядома гэта адчувалі. Сёння былі мы — праз стагоддзе нашы ўнукі, як стагоддзі назад сюды прыходзілі нашы прадзеды і дзяды. Галоўнае — мы ў бясконцым ланцугу пакаленняў. І дала нам гэтае адчуванне святая Еўфрасіння, творачы сваю высакародную справу ўзвышэння чалавечай душы праз столькі гадоў пасля сваёй зямной канчыны.

І хацелася верыць, што некалі адчыняцца дзверы Храма душы, якія пакуль у многіх нашых суайчыннікаў наглуха зачыненыя, як на гэтым вось здымку...

**Ягор ФЯДЗЮШЫН.**

# ШАГАЛАЎСКІ ПЛЕНЭР



З 15 чэрвеня па 6 ліпеня ў Віцебску адбудзецца Першы міжнародны пленэр па жывапісе імя Марка Шагала. Арганізатар пленэра — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, кіраўнік аргкамітэта — намеснік міністра У.Рылатка, кіраўнік пленэра — І.Мятліцкая. Для ўдзелу ў гэтай імпрэзе запрошаны вядомыя жывапісцы: Б.Забораў, Ж.Фарну (Францыя), Д.Кіпка, К.Восніца (Германія), Д.Пакамічча (Італія), В.Свянчарнік, О.Л.Фолк, Ю.Какаянін (ЗША), А.Дроўнгас, Н.Кесапліс, Н.Кіпраніс (Грэцыя), М.Шэрыт (Ізраіль), Ф.Маслюшчэк (Польшча), Ф.Бух, С.Воранаў, Л.Жуховічэр, А.Зінштэйн, У.Капылоўскі, А.Лазарэвіч, А.Рахімаў, Л.Табелкін, І.Энціна (Расія), а таксама беларускія мастакі Л.Шчамялёў, Н.Бушчык, У.Вальноў, У.Голуб, М.Данцыг, У.Кожух, В.Крошкін, А.Кузняцоў, З.Літвінава, А.Марачкін, У.Савіч, М.Селяшчук, А.Скавародка, А.Салаўёў, У.Стэльмашонак, Л.Хобатаў, В.Чукін, В.Шылко і іншыя.

Пасля заканчэння пленэра адбудзецца конкурсная выстава ўдзельнікаў, якую будзе ацэньваць міжнароднае журы. Сябрамі журы стануць прадстаўнікі вялікіх культурных цэнтраў і уладальнікі галерэй з розных краін. Падрыхтаваны таксама спецыяльны прыз у гонар Шагала, зроблены вядомым беларускім скульптарам У.Слабодчыкавым.

У праграме пленэра — выставы твораў М.Шагала і Ю.Пэна, прысвечаныя 75-м угодкам Віцебскай школы жывапісу, а таксама мноства персанальных і групавых выставаў сучасных мастакоў.

20 чэрвеня, у дзень афіцыйнага адкрыцця пленэра, вядомы расійскі музыкант Ю.Башмет дасць вялікі канцэрт у тэатры імя Я.Коласа. А 29 чэрвеня пленэр наведае вядомы французскі кампазітар Марк Блёз разам з жонкай-спявачкай і выканае ў суправаджэнні сімфанічнага аркестра араторыю, прысвечаную М.Шагалу, спецыяльна напісаную з гэтае нагоды. Апрача таго, з 1 па 6 ліпеня запланаваны музычны фестываль "Шагалаўская скрыпка". На ўдзел у канцэртах пагадзіліся шматлікія артысты і музычныя калектывы.

У рэчышчы пленэра мастакі наведаюць Полацк, Бярэзінскі запаведнік, Здраўнева, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, радзіму Х.Суціна — Смалевічы, прымуць удзел у адкрыцці 1 ліпеня ў Палацы мастацтваў рэспубліканскай выставы "Жыве Беларусь", прысвечанай 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

6 ліпеня, у дзень нараджэння М.Шагала, адбудзецца уручэнне прызоў удзельнікам ад спонсараў пленэра, а 7-га ў Нацыянальным прэс-цэнтры будзе праведзена прэс-канферэнцыя па ягоных выніках.

# "ЗОРКІ" СЫЙДУЦЦА НАД ПІНАЙ

Сёння ў Пінску распачынае сваю работу Першы міжнародны фестываль фальклору на Беларусі. Тут збяруцца мастацкія калектывы не толькі з нашай рэспублікі, але і краін блізкага і далёкага замежжа. Свята ладзіцца пад эгідай Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь пры чынным удзеле Беларускага інстытута праблем культуры. З гэтай нагоды мы папрасілі распавесці аб удзельніках і праграме фестывалю старшага навуковага супрацоўніка лабараторыі традыцыйнага мастацтва аддзела народнай творчасці БІПК, мастацкага кіраўніка фестывалю Мікалая КОЗЕНКУ.

— Першы міжнародны фестываль фальклору на Беларусі — унікальны сам па сабе. І ён значна будзе адрозніваецца ад усіх раней праводзімых не толькі на беларускай зямлі, але і ў іншых краінах былога Саюза. Усе папярэднія фестывалі паўтаралі свае памылкі. І гэта было звязана не столькі з падыходам да іх арганізацыі і правядзення, колькі з наяўнасцю на фэстах традыцыйнага фальклору. Жыццё паказала: Беларусь — найбагацейшая крыніца традыцыйнага жывога фальклору. Фальклор музычны, танцавальны, песенны — жыве, у той час, як некаторыя іншыя народы яго згубілі.

Для выступлення самабытных гуртоў адведзены першы дзень фестывалю. На другі дзень прадставяць сваю творчасць калектывы аматарскія, але і іх праграма недалёка адыходзіць ад мясцовых традыцый. Гэта будуць выканаўцы розных жанраў і напрамкаў, прычым творчасць кожнага з іх арыентуецца на прапаганду менавіта сваіх традыцый. Усе калектывы адрозніваюцца адзін ад аднаго сваёй самабытнасцю, адданасцю традыцыйнаму фальклору...

У час фестывалю кожны з калектываў атрымае магчымасць выехаць з сольнымі канцэртамі ў адзін з раёнаў Брэсцкай вобласці. Так што амаль уся Брэстчына будзе ахоплена песнямі і танцамі. Пінск толькі стартавая пляцоўка фестывалю. Усе чатыры дні горад над Пінай будзе спяваць, вобразна кажучы, не будзе часу спаць. А праграма фестывалю вельмі насычаная. З 19 па 21 чэрвеня ён працягне сваю работу ўжо ў Мінску, дзе будуць ладзіцца для творчых калектываў культурныя праграмы, сустрэчы. Адбудзецца таксама і навукова-практычная канферэнцыя па пытаннях існавання, бытавання фальклору, яго лёсе, праблемах, якія паўстаюць на шляху развіцця ў іншых дзяржавах.

# ЗНІТАВАЦЬ СВЕТ ЛЮБОЎЮ

*Працяг. Пачатак у N 23*

Назіраючы за Анатолем Лук'янчыкам і ягонай жонкай Наталляй, я бачыла, што свет гэтых людзей прасякнуты хрысціянскім светапоглядам павагі адзін да аднаго, роднасці і еднасці душаў. Прывёзшы нас, яны абодва пайшлі на кухню, і ў тым, як гатавалі вячэру, перадавалі адзін аднаму прадукты, раіліся, адчувалася доўгае сумеснае існаванне ў стане, што выказваецца банальным словам "шчасце". А жыццё ж



таксама, як і ў іншых эмігрантаў, было нялёгкім — адкуль жа гэты ўнутраны спакой і таксама як бы святло, што ішло ад іх абодвух? Я ўспамінала многія нашы сем'і — знерваваныя, у спрэчках па дробязі, з неспакоем і даўняй стомленасцю ў вачах, нашых хворых і ўжо таксама знерваваных дзяцей. Няўжо розніца толькі ў якасці жыцця? Можа, справа яшчэ і ў іншым — ім усе гэтыя доўгія гады дапамагала Царква, яна была ў іх душах і сэрцы. Мы ж былі ад яе адлучаныя... Зноў жа ўспамінаю, як у вялікія святы "ў тыя гады", употай прыйшоўшы ў царкву, убачыш, бывала, каго са знаёмых — адвернешся, каб не палохаць чалавека: а раптам ён падумае, што ты тут за стукача? І ён (ці яна) гэтак жа адварочваліся, бо, мабыць, баяліся таго ж. І, паклаўшы на Вялікдзень ля магіл Янкі Купалы ці Якуба Коласа па чырвонаму яйку, просіш сына-шасцікласніка, каб ён, не дай Божа, не прагаварыўся каму ў школе, што быў у царкве — выключаць жа з піянераў, а гэта значыць — наўрад ці атрымае вышэйшую адукацыю. Дарэчы,



амаль усіх, хто і цяпер займаецца беларускім Адраджэннем, даводзілася сустракаць на набажэнствах — у адрозненне ад тых, хто цяпер выдае сябе за веруючага і набірае галасы выбаршчыкаў, пазіруючы ў храме перад тэлекамерай...

... Такая ж спакойная, добразычлівая, хрысціянская сям'я, якая ўзрушыла душу — Лявон і Клаўдзія Кавалёвы. У тэлевізійнай перадачы спадар Кавалёў паказвае галоўнае багацце, якое ягоны бацька вывез з Беларусі, — кнігі стараабрадцаў.

Над гэтымі кнігамі як бы лунаюць постаці тых, для каго яны былі ўцехай душы, хто прайшоў праз ганенні, пакуты, каб абараніць Бога ў сабе. Тыя, хто глядзеў тую тэлеперадачу, мабыць, звярнуў увагу на тое, што родзіч Лявона Кавалёва — напрыклад, ягоны брат Цімка, зняты ў чырвонаармейскай будзёнаўцы, ён служыў у Чырвонай Арміі. Але і гэта не дапамагло — яны таксама аказаліся непатрэбнымі новай уладзе, таму што былі веруючымі.

А бацькі Клаўдзіі ўвогуле не толькі непатрэбнымі, але і сталіся "ворагамі народа". Ну як жа! У дзеда было ажно 300 гектараў зямлі, у бацькі — 60 (дарэчы, у тым раёне Дзвінска, які пасля стаў латышскім). Сама спадарыня Клаўдзія — з 1931 года, ад вайны ў яе засталіся жахлівыя ўспаміны: "Помню толькі страх. Бомбы ляцяць — і выбухі, выбухі... Пасля мы жылі ў Нюрнбергу — і там таксама страшна бамбілі. У ЗША наша сям'я прыехала ў 1956 годзе праз Францыю. Нас жа хто як браў: Канада толькі мужа з жонкай, Францыя — сям'ю з адным дзіцем і каб працавалі на шахце. У Францыі бацька якраз і працаваў спачатку на шахце, пасля ўжо — на ферме". Да зямлі, значыць, бліжэй...

Спадару ж Лявону хацелася гаварыць пра больш прыемныя рэчы, і ён расказваў нам, як у самым дарагім атэлі Балтымора праводзілі яго на пенсію — ад фірмы "Даміно шугер кампані", якую далі пенсію — 1037 даляраў плюс федэральную — 907 даляраў, і гэта складае 80 працэнтаў ад заслужанай, таму што ён мае яшчэ не 65, а 62 гады, а праз тры гады ён стане атрымліваць поўную. "Цяпер фірму ў амерыканцаў перакупілі англічане і канадцы, то жыць нам стала яшчэ лепей".

... Гнала ад сябе ўспаміны пра нашых пенсіянераў, якія дрыжаць перад заўтрашнім днём, бо пенсійны фонд Беларусі растрачаны ў выніку стагнацыйнай палітыкі. Нашы праблемы вырашаць толькі нам. Яны — зрабілі некалі свой выбар (дакладней, гэтая ідэалогія і ўлада прымусілі зрабіць такі выбар), і ўсё ж, нягледзячы на заможнае, вельмі нават заможнае па нашых мерках жыццё, у іх ўвесь час адчувалася далёкая, невыказальная крыўда — наша Радзіма ад нас адракласяе... Вяртаючыся да сям'і Кіпеляў, хочацца дадаць, што бацька спадара Вітаўта — Яўхім, быў таксама чырвонаармейцам, абаронцам Савецкай рэспублікі. Постаць гэтая ўвогуле яшчэ як след не адзначаная ў нашай культуры і гісторыі — студэнт беларускага універсітэта, супрацоўнік літаратурных часопісаў, які арганізоўваў шмат гурткоў, клубаў па вывучэнні гісторыі і краязнаўства Беларусі, ён, у рэшце рэшт, апынуўся, як і многія іншыя свядомыя беларусы, у сталінскіх канцлагерах. Не дзіўна, што ён, убачыўшы антычалавечую сутнасць савецкай улады, у гады вайны працягваў сваю дзейнасць толькі як беларускі патрыёт.

Апынуўшыся ў эміграцыі, ён быў адным з арганізатараў Аб'яднання беларускіх вязняў савецкіх канцлагераў у Нью-Ёрку, а ягоны сын, Вітаўт Кіпель, узначальваў, разам з Кастусём Мерляком, Канферэнцыю вольных беларусаў — палітычную арганізацыю, галоўнаю мэтай якой было звярнуць увагу Арганізацыі Аб'яднаных Нацый на тое, што Савецкая Беларусь — па сутнасці, калонія савецка-расійскай імперыі. Што ж — усеагульнае абрусенне, поўная адсутнасць беларускіх школ у нашых гарадах, вынікі чаго мы трагічна адчуваем зараз, у час наступу на незалежнасць Беларусі, ні для кога не сакрэт і яскравае сведчанне таго, што пра Беларусь трэба было крычаць ва ўвесь голас, як гэта рабілі за акіянам яны... Прынамсі, многія іх акцыі прымушалі нашых "бонзаў" тут варушыцца, весці наступ на беларускае не такімі нахабнымі метадамі і хаця трохі стрымлівацца ў сваім жаданні хутчэй "інтэрнацыяналізаваць" гэты народ... Прынамсі, помніцца, як, выклікаўшы мяне ў абкам партыі, адзін з нашых гродзенскіх ідэолагаў здаля паказаў радок з радыёперахвату "Свабоды", дзе нешта добрае гаварылася пра мае вершы, і шматзначна заявіў: "Враги хвалят — значит, надо задуматься над своим поведением, товарищ Ипатова!" Пасля доўга гаварыў аб адказнасці за кожны паэтычны радок...

Тады, у 70 — 80-я гады, мы, слухаючы перадачы радыё "Свабода", праз трэск і грукат заглушальных установак, пазнавалі галасы многіх з тых, хто там, за акіянам, змагаецца за Беларусь. Часта выступаў Арсень Загорны (Янка Запруднік), мой зямляк з Міра (пра што я даведалася значна пазней).

У нядаўняй гаворцы (інтэрв'ю з ім будзе надрукаванае ў бліжэйшых нумарах) на маё пытанне, што яму часцей успаміналася на чужыне, ён сказаў — сенажаць каля Бродзішчаў (лес), дзе быў родны хутар. Так, той непаўторны лапік роднай зямлі, на якім хлопчык асабліва моцна адчуваў сваю непарыўную еднасць з фарбамі, гукамі, пахамі — адчуваў, не ўсведамляючы, што ўсё гэта будзе адгукацца ў душы, не даючы, як сказаў Максім Багадновіч, "чужынцамі быць".

9 жніўня 1996 года нашаму земляку споўніцца 70 гадоў. Яго паэзія, публіцыстычныя артыкулы ў хуткім часе будуць надрукаваныя тут, на Беларусі, асобнай кніжкай; як мне казалі, дадзеныя пра Янку Запрудніка будуць змешчаныя ў кнізе "Памяць" Карэліцкага раёна. Трэба сказаць, што ў Карэліцкім раёне, як і на Навагрудчыне, прыязна ставяцца да вяртання ў культуру і гісторыю Беларусі нашых землякоў. Так, 6 красавіка ў Карэлічах і Навагрудку, у дзень 84-годдзя славутага вучонага Барыса Кіта, прайшла прэзентацыя кнігі Лідзіі Савік "Вяртанне" пра яго жыццё і дзейнасць. Думаецца, што настаў час



адзначаць і памяць пра нашых землякоў-эмігрантаў, і прапагандаваць іх дзейнасць і творчасць больш мэтанакіравана.

Не ведаю, чым гэта вытлумачыць, але сярод актыўных дзеячоў эміграцыі шмат навагрудчан. У гады белапольскай акупацыі менавіта тут было найболей членаў Грамады і Таварыства беларускай школы, тут дзейнічала Беларуская Навагрудская гімназія. Можа, ёсць нейкія рэгіёны, дзе духоўнае поле асабліва яркае і напружанае? Як бы то ні было, старэйшыя людзі помняць і яшчэ могуць шмат чаго расказаць пра асветніцкую і грамадскую дзейнасць сям'і Орсаў, Рагуляў; з Навагрудчыны, з вёскі Дзетамля, паходзіць Кастусь Мярляк, чыя аўтабіяграфічная кніга "Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі" пачынае патроху набываць вядомасць на Беларусі. На жаль, нягледзячы на вялікую працу калектыву Навагрудскага краязнаўчага музея на чале з Тамарай Вяршыцкай, дзейнасць нашых землякоў з эміграцыі, іх творчасць, жыццё і ўклад у беларускую справу пакуль недастаткова вывучаныя, і



перш за ўсё з-за адсутнасці колькасці крыніцаў і навуковых супрацоўнікаў, якія будуць працаваць над выданнямі, падоранымі з-за мяжы, бо ўсе часопісы, кнігі, газеты, што выдаваліся на эміграцыі, былі надзейна схаваныя ў "спецхранах", і доступ для іх быў адкрыты толькі для тых, хто "выкрываў антысавецкую дзейнасць наёмнікаў імперыялізму". Пакуль толькі настае час для сур'ёзнага вывучэння агромністага багацця па сапраўднай нашай гісторыі і культуры.

... Сустрэчы, якія адбыліся там, у Амерыцы, былі карысныя не толькі тым, што мы змаглі паказаць тут, на Беларусі, нашых землякоў, даць магчымасць ўгледзецца ў іх твары, вочы, пачуць іх праніклівыя словы аб роднай мове (са слязьмі аб тым, што ён быў, ёсць і будзе беларусам, сказаў прафесар Лявон Мурог, а дзеячы царкоўнай парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, Міхась Бахар, Мікола Касцюк, Міхась Палюховіч, Юрка Навумчык гаварылі пра гэта ў вялікай тэлевізійнай перадачы, якую нам удалося запісаць). Дарэчы, вельмі цікавым было знаёмства з невялікай друкарняй у Саўт-Рыверы, дзе спадар Юрка Навумчык выпускае часопіс "Беларуская думка". Нам было цікава адкрываць і для сябе, і для нашых гледачоў вялікі свет беларусаў у Амерыцы, і было шкада, што мы змаглі запісаць для тэлевізіі нямногае, хаця, прызнацца, працавалі нямала — за няпоўны месяц запісалі каля дванаццаці перадач! Чакаюць сваёй чаргі запісы размоў з Кастусём Мерляком, наведванне адной з фермаў разам з Анатолем Лук'янчыкам, сустрэча ў Крэчэўскім фондзе...

Па-за кадрам засталіся мноства дэталяў саміх сустрэч, размоў, лёсаў, пра якія яшчэ, мабыць, трэба будзе расказваць. Трэба — таму што вялікі мацярык пад назвай "Беларусы ў свеце" яшчэ толькі пачынае даследавацца. Нам, на адрас перадачаў, прыходзяць лісты з водгукамі, а то і з просьбамі адшукаць родных у Амерыцы (двое з нашых герояў ужо знайшлі сваіх родзічаў дзякуючы тэлевізіі, але аб гэтым пісаць будзем у канцы нашага тэлевізійнага цыкла). Для тых, хто яшчэ збіраецца пісаць такія лісты, магу параіць кнігу Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША", дзе ў канцы змешчаны звесткі пра беларусаў, якія актыўна ўдзельнічаюць у беларускім руху. Але многія беларусы, апынуўшыся за мяжой, як растварыліся, не прымкнулі да беларускіх суполак, пайшлі да рускай праваслаўнай царквы, і таму знайсці іх для нас немагчыма.

... Рыхтуем з Валерыяй Скварцовай чарговую перадачу. Углядаемся ў кадры, як збіраюцца ў нядзелю беларускія людзі да сваёй, збудаванай уласнымі рукамі альбо купленай на свае грошы царквы. І радуемся, што змаглі запісаць і зможам паказаць усё гэта тут. І можа, той, хто зняверыўся ў сваёй Бацькаўшчыне, хто збіраецца без жалю пакінуць і забыцца на яе, задасць сабе пытанне: ці зрабіў я нешта ТУТ для сапраўднай незалежнасці Беларусі і ці буду я ТАМ шчаслівы?

Вольга ІПАТАВА.

*На здымках:*

у Крэчэўскім фондзе Нью-Ёрка:

1. Ала Орса Рамано і прафесар Т.Бэрд.
2. Янка Запруднік.
3. Падчас запісу тэлевізійнай перадачы ў Саўт-Рыверы.
4. Валерыя Скварцова, Ганна і Кастусь Мерлякі.

Фота аўтара і В.МЕЛЬЯНОВІЧА.

# «Я АДЧУВАЎ СЯБЕ ДРЭВАМ З ВЫДРАНЫМІ КАРАНЯМІ...»

Дзе нарадзіўся Шагал? У Віцебску альбо ў Лёзна? У розных даследаваннях месца нараджэння мастака называюць па-рознаму. Мяркую, што на гэтае пытанне даўным-даўно адказаў сам Шагал: у Віцебску, аб чым сведчаць ягоныя ўспаміны "Маё жыццё", выдадзеныя ў Парыжы ў 1931 годзе. Апрача таго, яшчэ ў першых артыкулах аб ім (1916 — 1918 гг.) месцам яго нараджэння лічыцца Віцебск. І яшчэ. У сваіх мемуарах Шагал пісаў аб тым, што ў дзень ягонага з'яўлення на свет, а гэта здарылася 6 ліпеня 1887 года, у горадзе палыхаў вялікі пажар. У "Віцебскіх губернскіх навінах" ад 27 чэрвеня (па ст. стылі) кажацца: "24 чэрвеня г.Віцебск спасцігла вялікае няшчасце. А другой гадзіне дня, пры моцным ветры ў другой частцы горада, за Магілёскім базарам, каля Сянной плошчы загарэліся крамы купца Магарыла, пажар хутка перайшоў на дом Левінтавых; адсюль хутка полымя перакінулася на суседнія дамы і Вялікую Магілёўскую вуліцу, дзе агонь ахапіў адразу некалькі кварталаў дамоў... Згарэла наогул 125 крам, 268 драўляных і 16 мураваных дамоў, не лічачы надворных пабудоваў і флігеляў."

Захаваўся стары фотаздымак гэтага пажару 24 чэрвеня 1887г. Аднак пераклад гэтай даты са старога летазлічэння на новае быў кімсьці зроблены недакладна, з памылкай на адзін дзень. Так што можна лічыць даведзеным: Шагал нарадзіўся ў Віцебску 24 чэрвеня па ст. стылі, а па новым — 6-га ліпеня, але не 7-га, як лічылася раней і ўвайшло ўва многія кнігі ды энцыклапедыі свету.

Што датычыць Лёзна, дык карэннымі жыхарамі гэтага мястэчка былі бацькі Шагала, а ў Віцебск яны пераехалі перад нараджэннем сына. Хата "ля самой Суражскай шашы, за турмой", у якой на свет божы з'явіўся Марк, не захавалася, але на самым пачатку стагоддзя пасля смерці дзеда Шагала бацькі змянілі месца жыхарства ў тым жа раёне, а потым набылі хату на Пакроўскай вуліцы (былая вул. Дзяржынскага, а зараз зноў Пакроўская, 11). У гэтым доме Шагалы пражылі да 1922 года. Сёння тут размешчаны дом-музей М.Шагала з мемарыяльнай дошкай і помнікам мастаку, які ўсталяваны на пачатку вул.Пакроўскай, што стварыў віцебскі скульптар А.Гвоздзікаў.

Шагал: "Маё першае ўражанне ад жыцця? Я перадусім не хацеў жыць, адчуваў сябе мёртванароджаным... Уявіце белы пухір, якому не хочацца жыць. Як быццам бы яго набілі карцінамі Шагала! ... Мой бацька падымаў тоны бочак з селядцамі, грузіў іх на аўтамабілі, у той час, як ягоны гаспадар стаяў убаку, нібыта набітае пудзіла. Маці першая адкрыла мой талент, ён хаваўся дзесьці ў ёй, усё мне было перададзена праз яе. Як часта яна казала мне: "Так, сынок, я бачу, што ў цябе ёсць талент. Але паслухай мяне, магчыма, лепей табе стацца кур'ерам? Мне, па праўдзе, цябе шкада... Адкуль гэта ў нас?.."

Дзед быў мяснікам. Ён з бабуляй мала цаніў маё мастацтва, у якім усё наадварот і ўсе такія непадобныя. Але ён вельмі дорага цаніў мяса. Але я абавязаны і яму: у добрае надвор'е дзед узбіраўся на дах, чапляўся за трубу і ласаваўся там морквай. І вось, уявіце сабе, некаторыя крытыкі з радасцю і палёгкай бачаць у гэтых нявінных забавах дзеда разгадку маіх карцін! Тут ёсць доля ісціны: маё мастацтва не іграла аніякай ролі ў жыцці маіх сваякоў, затое іх жыццё зрабіла вялікі адбітак на мае карціны. Быў яшчэ дзядзька-цырульнік. Ён мяне стрыг і галіў з бязлітаснай любоўю і нават — адзіны з усіх — ганарыўся мною. Калі ж я напісаў ягоны партрэт і падарыў яму, ён кінуў позірк на палатно, потым паглядзеў на сябе ў люстэрка, задумаўся і сказаў: "Не. Захоўвай яго лепей у сябе!"

Да нашых дзён захавалася некалькі месцаў у Віцебску, непасрэдна знітаваных з Шагалам. На адным з будынкаў па вул.Леніна, 24 — у ім калісьці размяшчалася гарадская вучэльня, дзе ў 1897 — 1901 гг. вучыўся Шагал, неўзабаве будзе адкрыта мемарыяльная дошка работы віцебскага скульптара І.Казака.

"Я маляваў, маляваў і... у рэшце рэшт у адзін дажджлівы вечар апынуўся пад шлюбным вянцом, — пісаў у сваіх успамінах Шагал. — Гэтае сямейства — падумаць толькі! — валодала ў нашым горадзе трыма ювелірнымі крамамі. У вітрынах ззялі і пераліваліся рознакаляровымі агнямі пярсцёнкі, брошкі і бранзалеты. Адусюль званілі гадзіннікі і будзільнікі. Мне, які прызвычаіўся да іншых інтэр'ераў, усё гэта здавалася незямной раскошай".

Гэты, вядомы ў горадзе дом, што належаў цесцю Шагала, знаходзіўся на рагу вуліц Смаленскай і Падзвінскай, на беразе Віцьбы, ля самага моста. Пабудаваны ён быў у сярэдзіне XIX стагоддзя і доўгі час ім валодаў багаты швейцарац Хрысціян Бразі. Там месціўся гатэль "Бразі", рэстаран і кандытарская "Жан Альберт", крама канцтавараў Ш.Яхніца і ювелірны магазін цесця Шагала Ш.Розенфельда. На гэтым месцы сёння невялікі сквер.

25 ліпеня 1915 года адбылося вяселле мастака і Бэлы (Берты) Розенфельд. Існуе некалькі версій іх знаёмства, паводле адной з іх — гэта здарылася ў школе-студыі Ю.Пэна, дзе 19-гадовы мастак пазнаёміўся з пачынаючай мастачкай, 15-гадовай дзяўчынкай. Праўда, каханне прыйшло да іх пазней. Кінуўшы студыю Пэна, Бэла паехала ў Маскву, дзе напачатку вучылася ў школе Герц'е: вывучала гісторыю і філасофію. Потым яна перайшла ў акцёрскую студыю К.С.Станіслаўскага.

Адразу ж пасля вяселля маладыя едуць у Петраград, але неўзабаве вяртаюцца ў Віцебск і селяцца ў невялікім драўляным дамку насупраць хаты Шагалаў, у якім здымалі два пакоі. У адным з іх Марк Захаравіч абсталяваў майстэрню, дзе праводзіў заняткі са сваімі вучнямі, яшчэ да адкрыцця Народнай мастацкай школы. З вакна майстэрні добра было відаць тую самую Пакроўскую царкву, якую Шагал так часта маляваў.



Падчас вайны гэты дом быў разбураны і на ягоным месцы знаходзіцца пустэча. У віцебскіх архітэктараў, як мне сказаў вядомы краязнаўца А.Падліпскі, ёсць задума — узнавіць гэты дом.

У 1919г. Шагал дамогся выдзялення для Народнай мастацкай школы на Бухарынскай вуліцы асабняка Вішняка — аднаго з дырэктараў акцыянернага таварыства "Віцебскі трамвай" і пасля ад'езду першага дырэктара школы М.Дабужынскага, з лютага 1919г. школу ўзначаліў Шагал. "Мара аб тым, каб дзеці гарадской беднаты, якія дома пэцкалі з любоўю паперу, далучыліся да мастацтва, ажыццяўляецца, — пісаў Шагал. — Мы можам сабе дазволіць раскошу "гуляць з агнём" і ў нашых сценах прадстаўлены і функцыянуюць вольна кіраўніцтва і майстэрні ўсіх напрамкаў: ад левага да "правых" уключна".

Да выкладчыцкай працы ён прыцягнуў многіх вядомых мастакоў: В.Ермалаеву, Л.Лісіцкага, К.Малевіча, І.Пуні, К.Багуслаўскую, Р.Фалька, Ю.Пэна, А.Рома, Я.Цільберга, Д.Якерсона. У чэрвені-ліпені 1919г. у памяшканні школы прайшла першая выстава работ навучэнцаў, а ў снежні — першая Дзяржаўная выстава работ тутэйшых і маскоўскіх мастакоў, на якой экспанаваліся працы 41 мастака, у тым ліку М.Шагала, К.Малевіча, В.Кандзінскага, Л.Лісіцкага, В.Стрэмінскага, Д.Бурлюка, П.Канчалоўскага. Асабняк, у якім месцілася навучальная ўстанова, захаваўся да нашых дзён (цяпер гэта дом N 5-а па вуліцы "Праўды").

Не хочацца варушыць мінулае, але так было. Доўгія дзесяцігоддзі Шагал для Беларусі як бы не існаваў. Здаецца, упершыню ў 1982г. журналіст, а цяпер народны дэпутат С.Навумчык зрабіў для "Віцебскага рабочага" інтэрв'ю з А.Вазнясенскім, дзе ўпершыню было згаданае імя выбітнага земляка ў мясцовай прэсе. Але потым, як узгадвае С.Навумчык, на рэдакцыйнай лятучцы калегі ўспрынялі гэты матэрыял як "падпяванне міжнароднаму сіянізму". А неўзабаве Віцебск наведаў і вядомы У.Бягун і пачалася самая сапраўдная антышагалаўская кампанія. З'явіліся нарабіўшыя шуму публікацыі ў "Политическом собеседнике", па каналах БелТА перадаваліся антышагалаўскія матэрыялы. Дайшло да таго, што стагоддзе з дня нараджэння вялікага мастака на ягонай радзіме не адзначалася. Падставы? Усё тая ж праславутая палітычная карта сумна вядомых выдумак пра жыда-масонскія змовы. Гулялі на патрыятычных пачуццях беларусаў: маўляў, Шагал памёр мільянерам, але ж так і не перадаў Віцебску аніводнай карціны. Што ён быў заўзятым антыкамуністам, бо аздабляў роспісамі сінагогі ў Ерусаліме. Эстэтычныя катэгорыі, натуральна, пад увагу не браліся. Зрэшты, у той жа час М.Савіцкі ў "Политическом собеседнике" выказаў сваё рэзка адмоўнае стаўленне да Шагала з пазіцыі эстэта, хаця і з ідэалагічнай падкладкай.

Аднак вядома, што яшчэ ў 1972 годзе Шагал выказаў жаданне на ўласны кошт пабудаваць у Віцебску карцінную галерэю і перадаць туды свае працы, але "шэры кардынал" М.Суслаў асабіста забараніў гэтую акцыю. Дарэчы, існуе фотаздымак, на якім былы камісар па справах мастацтваў Віцебска і Віцебскай губерні М.Шагал зняты побач з Марысам Тарэзам на адкрыцці сваёй персанальнай выставы, прыбытак ад якой пайшоў у фонд Французскай кампартыі. Першымі ў абарону Марка Шагала выступілі беларусы — Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, чые імёны сёння сталіся сімвалам нацыянальнага адраджэння. Быў выдадзены зборнік вершаў Шагала ў перакладзе Р.Барадуліна. У студзені 1991г. у Віцебску з поспехам прайшлі Усесаюзныя шагалаўскія дні з удзелам вядомых савецкіх дзеячаў культуры. Была арганізавана і выстава, на якой упершыню былі прадстаўлены арыгінальныя працы Шагала, рэдкія дакументы аб ягоным жыцці з прыватных збораў, Пскоўскага архітэктурна-мастацкага музея і Пушкінскага музея выяўленчых мастацтваў.

Безумоўна, спрэчка, каму належыць Шагал — Расіі, Беларусі ці Францыі — бессэнсоўная. Быў доўгі час, калі мы на яго забыліся. Ён быў для нас авангардыстам і эмігрантам. Трыццаць гадоў таму я бачыў ягоныя работы толькі ў рэпрадукцыях, ды і тое толькі таму, што ў Ленінградскай універсітэцкай бібліятэцы знайшліся раскошныя альбомы выдавецтва Скіра, якія, натуральна, нельга было выносіць з чытальнай залы. Гартаючы закрытыя для публікі альбомы, мы рыхтаваліся да экзаменаў. Рэпрадукцыі з гэтых альбомаў наш педагог В.Я.Бродскі паказваў нам, засланяючы рукою імя аўтара, і сувора пытаў: "Хто гэта?" І мы, часам наўмысна блытаючыся, казалі: "Манэ, Пікасо і — больш упэўнена: Далі, Кандзінскі, Шагал." Задаволены Бродскі хітравата ўсміхаўся...

Арыгіналы Шагала былі даўно схаваныя ў сховішчах і чакалі свайго лёсу разам з шматпакутнымі карцінамі Кандзінскага і Малевіча.

У 1961г. Ахматава паклялася Царскаму Сялу:

"Но тебя опишу я,
Как свой Витебск — Шагал."

Тады ж яна настальгічна ўзгадвала Парыж 1911 года: як бушаваў у горадзе кубізм, што нядаўна перамог, як у Люксембургскім садзе непрызнаны жабрак Мадзільяні дэкламуе Верлена. "Марк Шагал ужо прывёз у Парыж свой цудоўны Віцебск..." Трэба аддаць належнае смеласці маладога мастака. У яго не было Дзягілева, як у Бакста або Анны Паўлавай, які зрабіў рускі балет у Парыжы "адмысловай традыцыяй". Ён сам заваяваў сталіцу еўрапейскага жывапісу, але за ягонымі плячыма былі вучоба ў Пэна, заняткі ў Пецярбургу ў Бакста і Дабужынскага.

У Францыі Шагал пражыў 4 гады. Напачатку ён пасяліўся ў маленечкай кватэрцы на Авеню Мэн, адчуваў сябе самотна і, па ягоных словах, толькі адлегласць, што аддзяляла Парыж ад Віцебска, утрымала яго ад хуткага вяртання дадому. Потым ён перабраўся ў інтэрнат мастакоў "Ля Рюш" ("Вулей"), дзе пасябраваў з Суціным, Цадкіным, Кікоіным, Архіпенкам, Мадзільяні, Лежэ.

Тады і пабываў у ягонай майстэрні Луначарскі, які назваў Шагала "маленькім Гофманам калявіцебскіх трушчобаў", паэтам, які імкнецца "выявіць сваю нешэраговую душу графічна маляўніча".

У Парыжы Шагал працягваў упарта пісаць Віцебск, стварыў шэраг твораў, што сталі потым знакамітымі. Героі ягоных карцін гэтага перыяду — скрыпач, фурман, шарманшчык, паштальён на фоне беларускага вясковага краявіду.

"Парыж, ты мой другі Віцебск!" — паўтараў ён у тыя часы. Ён вельмі пакутаваў матэрыяльна, паколькі грошай на палотны не было, пісаў на абрусах, прасцінах і нават на сваёй начной кашулі. Лепей за ўсё ён адчуваў сябе ў Луўры сярод яго "даўно зніknуўшых сяброў" — Тыцыяна, Рэмбрандта, Жэрыко, Шардэна. Калі пачалася першая сусветная вайна, Шагал вярнуўся з Парыжа ў Віцебск. Пасля нядаўняга ўзрушэння парыжскім жыццём ён з нейкім замілаваннем углядаўся ў павольна цякучыя, напаўдрымотныя правінцыйныя будні. Шагал бачыць у іх штосьці глыбока роднае і прыцягальнае, піша празрыстымі і прасветленымі тонамі: "Дом у Віцебску", "Цырульня", "Віцебск. Аптэка".

У апошняй працы мастак звонку як бы вельмі проста, з вялікай пяшчотай піша родныя, з дзяцінства дарагія месцы горада, з ягоным узорам драўляных, пахіснутых дамоў, нетаропкімі постацямі, што слізгаюць па пустыннай дарозе, ахінутыя дабратворным сінім небам у лёгкіх наіўных баранках аблокаў. Увогуле кажучы, лірычныя якасці майстар не страціў да канца свайго жыцця і асабліва цаніў гэтыя рэдкія свае пейзажы Віцебска, называючы іх "дакументамі".

А вось яшчэ адзін "дакумент" — загадкавая сіне-белая карціна "Над Віцебскам". Дахі і вуліцы, пакрытыя снегам, агромністая маса сабора, маленькія драўляныя дамкі і платы. Па-над мірным зімовым пейзажам навісае, прасоўваючыся з задняга плана наперад, вялікая постаць сіняга старога з кіем і заплечнай торбай. Стары не саступае ў росце сабору. Ён стаіць на даху аднаго з дамоў і збіраецца пераступіць праз другі...

Неяк адзін з крытыкаў заўважыў, што "мастацтва Шагала —начное". У ягоных творах сапраўды ўвасабляюцца нейкая мара, крылатыя алегорыі сноў, трызненні адоранага дзіцяці, наіўнасць сузіральніка.

Шагал можа намаляваць сем пальцаў на сваёй руцэ. Можа афарбаваць яе ў чырвонае або зялёнае — такога не бывае! Можа насунуць на звычайную котку жаночы твар. Можа закідаць палатно вясельнымі кветкамі, але можа тут жа перакуліць Віцебскую ратушу. Ён чараўнік, сярэднявечны маг і прытым каларыст і паэт.

Калі юнак з Віцебска маляваў сваіх землякоў, свой горад, да шырокай публікі выйшаў рускі абраз. Культператварыўся ў культуру, таму што гэта быў жывапіс першага гатунку, які паказваў таямнічую сілу гарачых фарбаў, духоўнае гарэнне чырвонага і белага, магчымасць пайсці ад чыста літаратурных прыёмаў адлюстравання рэальнасці.

"Я многім абавязаны рускаму абразу, — казаў Шагал, — абразатворцы — паэты, у якіх фарба паказвала адразу ўсё жыццё, увесь сусвет. Іхняе мастацтва было наскрозь адухоўленым, яно не ведала прыхільнасці да тэхнікі, якая знішчае чысціню".

Сапраўды, ад абраза, апрача ўрокаў вытанчанага каларызму, якія павінны былі ўраўнаважыць раннія ўражанні, атрыманыя ад віцебскага вулічна-крамнага жывапісу. Шагал успрыняў ідэю адзінага жывапіснага поля, складзенага з зямнога "нізу" і нябеснага "верху". Гэтая ідэя акрэсліла ягоную прасторавую канцэпцыю свету. Але што ён зрабіў з гэтымі кананічнымі паняццямі? Недасяжны "верх", сіняе віцебскае неба, гранічнае ўвасабленне духоўнай святасці, ён засяліў і адамашніў, затое зямная цвердзь часам робіцца недасягальнай для ягонага лірычнага героя. Узімку — віцебскі пейзаж выдатна паказаны з паднябесся. Героі Шагала не толькі мараць пра неба і цягнуцца да яго, — яны соўгаюцца ў паветраным акіяне разам са сваімі каровамі, козамі, скрыпкамі, пеўнямі, гадзіннікамі, братаючыся з анёламі. Неба Шагала — свабодная стыхія абдымкаў і пацалункаў, прытулак бяздомных, сірых, што блукаюць па сінім небе, як калісьці па грэшнай зямлі.

У правінцыйным Віцебску, дзе крывыя хаткі цісnуцца адна да адной, асабліва не разгорнешся ні ўлева, ні ўправа, затое ў




Рыгор СКЛЮТ*

# ЛЯ ВЫТОКАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА

Наш слаўны першадрукар Праньціш Скарына ў прадмове да аднае з кнігаў свае Бібліі ("Юдыт") запісаў простыя, але надзвычай прачулыя, векапомныя словы: «Панежа ад прыраджэньня зьверы, хадзячыя ў пустыні, знаюць ямы свае, пціцы, лётаючы па воздуху, ведаюць гнёзды свая, рыбы, плываючыя па мору і ў рэках, чуюць віры свая, пчолы і тым падобныя бароняць вульляў сваіх — також і людзі, ідзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку імаюць». Гэтак упяршыню ў нас быў сфармуляваны ў няхітрай і нявыдуманай форме вялікі й адвечны закон жыцьця — закон сілы каханьня да роднага, ці, выслаўляючыся ў тэрмінах аднае з сучасных плыняў у навуцы — закон *нацыянальнага эрасу.*

Нацыянальны эрас — каханьне да роднага — становіць сабою глыбокую эмацыянальную (пачуцьцёвую) падаснову ўсяго нацыянальнага наагул, усякае нацыянальнае сьведамасьці, кажнае нацыянальнае ідэі, зь яго ўзростае й на яго-ж абапіраецца кажны нацыяналізм. І ў гэтым таямніца тае вялікае сілы, зь якой дзеіць кажная нацыянальная ідэя ці нацыяналізм на суродзічаў свае нацыі, бо бязь лішніх довадаў само сабою ясна, што і ўсякая ідэя наагул будзе найбольш моцнай і дзейнай тады, калі выплывае з глыбінных нетраў пачуцьця, карэніцца ў пачуцьцях і на гэтыя-ж пачуцьці абапіраецца, як на сваю непахісную падаснову. А нацыянальная ідэя мае ў гэтым дачыненьні яшчэ тую вялікую перавагу над шмат якімі іншымі ідэямі, што яна карэніцца й абапіраецца на адным із глыбейшых і інтымнейшых пачуцьцяў — на пачуцьці каханьня, эрасу, што сягае сваймі вытокамі да самое біялёгічнае істоты чалавека. Можна не згаджацца із Фройдам і ягоным псыхааналізам у паглядзе на унівэрсальную вызначальнасьць эратычнага пачуцьця наагул, на абумоўленасьць ім усіх і ўсякіх выяваў жыцьця й творчасьці, але нельга ня прызнаць, што ў дачыненьні да свае аж біялёгічнае моцы й трываласьці пачуцьцё гэтае займае ў людзкой прыродзе адно зь першых і важнейшых месцаў, калі не найпершае й найважнейшае. Дык і адна з адменаў ягоных — нацыянальны эрас — таксама мусіць падзяляць гэтае месца й тым самым абумаўляць і падпіраць моц заснаванае на ім нацыянальнае ідэі.

Праньціш Скарына быў у нас толькі першым, хто публічна выказаў — пры тым, цікава падчыркнуць, із чыста-біялёгічным абгрунтаваньнем — вялікую і ўсеабсяжную формулу нацыянальнага эрасу, зраджваючы ў самой цёплай, прачулай форме выслаўленьня яе й сваю асабістую цесную прычыннасьць да гэтага пачуцьця. Няпомыслы й перагасы народнага й асабістага ягонага жыцьця не далі нашаму вялікаму мужу, ягонай глыбокай думцы (ці мо толькі слову) узьняцца з глыбіняў усьведамленьня сілы нацыянальнага эрасу на ўзвышшы вызначэньня ўсяе велічы й магутнасьці нацыянальнае ідэі, на ўзвышшы нацыяналізму. Сучасная яму й асабліва наступная эпоха працавала на поўным ходзе над тым, каб як глыбей пахаваць навет самы апрычоны нацыянальны быт нашага народу. Але сярод тых дзейнікаў, якія не далі ўдацца гэтай змове й замаху часу зь ягонымі варожымі сіламі на самы наш нацыянальны быт, бясспрэчна, адно зь першых, калі, зноў-жа, не найпершае месца займае той самы нацыянальны эрас, каханьне да роднага, гарачы прысак якога перахоўваўся глыбака на дне душы кажнага Скарынінскага суродзіча, што й дало пасьля магчымасьць лепшым і чулейшым зь іх узьдзьмуць ізноў вялікае полымя нацыянальнага адраджэньня і ўзвышэньня. Але навет і тыя, што аказаліся слабейшымі ў нацыянальным дачыненьні й хоцькі ці няхоцькі адразу скапітулявалі перад часам, перакінуўшыся цалком у той ці іншы чужы табар — не маглі ўсё ж пазбыцца гэтага неадчэпнага пачуцьця да свае роднае «Літвы-айчыны», як, прыкладам, па свойму вялікі Адам Міцкевіч. А калі й перакідаліся, дык ня ўсе маглі вытрываць там, «на чужой старане», да канца, а варочаліся ці хоць наварочваліся ад часу да часу, валадарна гнаныя ўсё тым-жа стлумленым нацыянальным — да роднае хаты, да дому каханьня. Такім быў Людзьвік Сыракомля-Кандратовіч і, сярод іншых неадзінкавых, асабліва можа Вінцэсь Каратынскі, прачулая элегія якога — «Туга на чужой старане» — становіць сабою першае глыбака-паэтычнае выяўленьне нацыянальнага эрасу ў нашай ужо мове. З гэткіх скарыніных нашчадкаў і пачалі выходзіць тыя ўзьдзьмухвальнікі-абуджальнікі нацыянальнае сьведамасьці з глыбака захаванага прыску нацыянальнага пачуцьця — нацыянальнага эрасу, першае месца сярод якіх належыць, бясспрэчна, агульнапрызнанаму бацьку нашага руху Праньцішу Багушэвічу.

Пераняўшы як-бы проста з рук свайго вялікага прародзіча й цёскі Праньціша Скарыны гэтую сьведамасьць усевызначальнае сілы нацыянальнага, Праньціш Багушэвіч пачынае выказваць пачуцьцё нацыянальнага эрасу ўжо не ў нэгатыўнай форме «тугі на чужой старане», а ў простых словах шчырага, адкрытага прызнаньня ў каханьні, замілаваньні да «свае хаткі». І нездарма акадэмік Карскі, зацытаваўшы ў сваіх «Белорусах» самыя словы гэтага прызнаньня, мусіць сьцьвердзіць у шырэйшым абагульненьні: «Любовь к своей неприглядной родине — выдающаяся черта каждого белоруса», сьветчачы лішні раз аб тым-жа ўсенародным абсягу пачуцьця нацыянальнага эрасу ў нас.

Пачынаючы ад Багушэвіча, нацыянальны эрас становіць сабою эмацыянальную, пачуцьцёвую й любасна выпешчаваную ягонай натхняльнай і ідэйнай кіраўніцай — нашай адраджэнскай паэзіяй. Так, Багушэвічаў вучань і наступнік, працягальнік, а пасьлейшы вялікі нацыянальны прарок Янка Купала ад першых сваіх зборнікаў не пакідае на розныя лады паўтараць свае шчырыя прызнаньні ў каханьні да роднага — «ды люблю-ж я яе» ("Гэта крык, што жыве Беларусь" — зборнік «Жалейка»), «дай-жа ты мне сілы, каб цябе любіў так да самай магілы» ("Люблю тваіх межаў..." — зборнік «Гусьляр») — каб, зьвярнуўшыся зноў да нэгатыўнае формы «тугі на чужой старане» сьлядамі В.Каратынскага ("Я ад вас далёка" — зб. «Шляхам жыцьця») даць нарэшце непараўнальны ў сваёй глыбокай народнасьці й высокай мастацкасьці шэдэўр эстэтычнага выяўленьня нацыянальнага эрасу — паэму «Яна і Я» (зб. «Спадчына»). Гэтая паэма вартая таго, каб на ёй спыніцца хоць крышку, тым больш, што якраз гэты — асноўны, вызначальны ейны бок заставаўся дасюль для крытыкі зусім незаўважаным. Бо дасюлешняя крытыка, за вонкавым індывідуальным плянам, за шырмамі ідылічнасьці й фальклёрнасьці, што асабліва захапілі Карскага, за мастацкім, здавалася-б, чыста сэксуальным эратызмам (пркл. канец перадапошняга разьдзелу 13:

*Ногі падкасіліся і мне й ей,*
*Зьліліся вусны з вуснамі самі сабой,*
*Полымем прыпалі грудзі да грудзей,*
*Зьмяшаліся мы з сонцам, з кветкамі,*
*з травой)* —

зусім правочыла раскрыты паэтам толькі пад самы канец твору, у сама апошніх ягоных зваротках выразны нацыянальна-сымбалічны сэнс яго:



*Я песьняй мілую сваю праслаўлю*
*Паміж народамі сваіх, чужых зямель,*
*Каб не загінула, як кветка,*
*у беспраўю, —*
*Жыла й тады, як ляжа*
*ў вечную пасьцель.*
*А воля мне зялезная патрэбна*
*За крыўды мае мілай*
*помстай заплаціць,*
*Што гаравала так яна бясхлебна,*
*Што ланцугамі мусіла*
*шмат лет званіць.*

Купалаўская «Яна і Я» — гэта запраўдная песьня песьняў нашага нацыянальнага эрасу, дзе на шырокім нацыянальным народна-бытавым і фальклёрным фоне паўгадавога паўкола селавога жыцьця асноўнае масы нацыі (дарэчы, мала вузейшым і бяднейшым навет у зьместоўнасьці за абраз поўнага гадавога кола ў Коласавай «Новай зямлі»), само пачуцьцё, «задушэўнасьць» якога адзначае й Карскі, а нацыянальны сэнс раскрывае паэта, дасягае найвышэйшых формаў мастацкага выяўленьня, рэалізуючыся ў вобразах індывідуальнага і навет чыстасэксуальнага эратызму і гэтым самым завяршаючы навет фармальна сваё напаўненьне, як пачуцьця якраз эратычнага ў самым простым і звычайным, а не якім-небудзь пераносным сэнсе.

Купалавы паплечнікі й пераймальнікі таксама йдуць у сваёй паэзіі пад знакам эмацыянальнай усевызначальнасьці і ўсепрасякальнасьці пачуцьця нацыянальнага эрасу. Так, пра Я.Коласа ягоны суровы, але справядлівы крытык Максім Багдановіч проста сьцьвярджае: «Ня ў пекнасьці формы, мовы ці малюнку хаваецца цэннасьць яго вершаў, але ў праўдзівай — далёкай ад усякай хвальшы — любові да Бацькаўшчыны; гэтая любоў, як цудоўная жывая вада ў казках, ажыўляе іх і робіць роднымі, блізкімі ўсякаму, у кім яшчэ ёсьць душа жывая, хто не забыўся аб долі свайго народу, а мо й сам перажывае апісанае ў гэтых вершах» ("Глыбы й слаі", 1911). Таксама «праўдзівае — далёкае ад усякае хвальшы» каханьне да «мілае, роднае старонкі-маці» прасякае й паэзію Алеся Гаруна. А наймалодшая зорка нашаніўства, вершы якое яшчэ больш, як у Гаруна й іншых, ад пачатку й да канца застаюцца пад магутным Купалавым гіпнозам, высноўвае ціхі, але глыбока-натхненны, і дасюль улюблёны ўсімі запраўдны гімн нацыянальнага эрасу — ведамае «Люблю наш край».

Аднак, ужо сярод нашаніўцаў назначаецца й новая лінія паглыбленьня й завастрэньня пачуцьця нацыянальнага эрасу, ускладненьня яго мамэнтамі аж трагічнай часам аканаванасьці й самаахвярнасьці — мамэнтамі, ня чужымі й бадай заўсёды глыбака захаванымі ў кажным эратычным пачуцьці. Гэтую лінію пачынае адзін із найвыдатнейшых нашаніўскіх валатоў духу Максім Багдановіч, уздымаючы самы фактар нацыянальнага эрасу ізноў на ўзвышша магутнага закону, поўнага ў сваёй глыбіні безагляднай аканаванасьцяй, — на тое самае блізу ўзвышша, на якім паставіў ужо ў сваім сфармуляваньні Праньціш Скарына. У сваіх слаўнаведамых «Слуцкіх ткачыхах» ён якраз і выказвае магутнасьць сілы роднага, што прабіваецца заўсёды і ўсюды, як той «цьвяток радзімы васілька» праз «пэрсыдзкія ўзоры» чужых уплываў, прабіваецца ня толькі міжвольна, «забыўшыся» (першая рэдакцыя вершу), але нарэшце й надвольна-аканавана, мэханічным проста дзеяньнем «бязвольнае рукі» (апошняя аўтарская рэдакцыя вершу). І як тонка падгледзеў быў сваім часам Адам Бабарэка ў гэтым запраўдным шэдэўры думкі й выславу глыбака-сымбалічны абраз самых вытокаў нашага адраджэньня, пачатага мівольнымі, «забыўшыся», ці нат бязвольнымі рукамі як-бы тых самых «слуцкіх ткачыхаў» под магутным дзеяньнем сьляпое, аж біялёгічнае сілы роднага, сілы нацыянальнага эрасу! (...)

Так, ад далёкіх часоў мінуўшчыны праз усе перагасы гісторыі й бліжэйшае сучаснасьці пульсуе ў нашым народзе, у ягоным духу і лепшай выяве яго — паэзіі — усё тая-ж вялікая і ўсевызначальная сіла нацыянальнага эрасу, самаахвярнага каханьня роднага. І хоць не заўсёды й не ўва ўсіх давалася гэтай сіле ўзьняцца на вышэйшую ступень нацыянальнае ідэі, узвышша нацыянальнага, дык затое заўсёды й назаўсёды застаецца яна тэй магутнай падасновай, на якой абапіраецца й зь якой кажным часам можа быць адбудаваны і ўзбудаваны гмах гэнае ідэі. Гэтая вялікая сіла становіць сабою непахісную заруку няўмірушчасьці нашае нацыі й нашае нацыянальнае ідэі пры ўсіх сучасных і магчымых перагасах долі. Яна-ж дае нам сяньня ізноў і ізноў валадарны загад — катэгарычны імпэратыў безагляднага служэньня й ахвяраваньня сябе дарэшты гэтаму няўмірушчаму народу й ягонай справе. Выканаць гэты загад безаглядна й да канца — сьвяты абавязак кажнага Крывічаніна, дзе-б ён ні стаяў у змаганьні — ці на постаці варты, ці на полі бою за край і народ.

---

* *Адзін з псеўданімаў Антона Адамовіча.*

*Друкуецца ў скарочаным выглядзе паводле выданьня: Сакавік, N1 (2) за 1948г.*

**Публікацыя Валеркі БУЛГАКАВА.**

пісьменнік вельмі выразна пачынае звяртацца да нацыянальных філасафем, да архетыпаў народнай анталогіі. І якраз польская крытыка, шмат раней за савецкую, падкрэслівае з нагоды яго ваенных, "акопных" твораў, што "ў творчасці беларускага пісьменніка вылучаецца моцная філасофская насычанасць аповесцей". Гэта адзначана прыканцы 1960-х. Але праз увесь час пісьменнік ад праўды акопнай і экзістэнцыялізму вайны набліжаўся да праўды быцця і народнай экзістэнцыі. Сёння ў беларускай крытыцы прынята лічыць, што героі быкаўскай аповесці "Знак бяды" (якая была шчодра ўлаўрана яшчэ за савецкім часам) — Пятрок і Сцепаніда — увасабляюць беларускія нацыянальныя тыпы. Па напаўненню аповесць набліжаецца да жанру прытчы і нават эпасу, як лічаць некаторыя крытыкі. Што да майго меркавання, дык скажу болей. За гэтымі літаратурнымі героямі — Петраком і Сцепанідай са "Знаку бяды" — расчытваецца, апроч нацыянальнай анталогіі, і своеасаблівы эзатэрызм народнага быцця. Па сутнасці, фактура вайны пісьменнікам толькі выкарыстана, каб паведаміць пра істотнае. У гэтым сціслым, нешматслоўным творы "быкаўскага" фармату (крылаты выраз) у эпічнае поле завязаны і спракаветны татэмізм беларусаў, захаваны да сярэдзіны XX стагоддзя, і суцэльнае абагаўленне прыроды; пададзены і пэўны містычны вопыт, як вынік змагання з прыродай за кавалак хлеба, і вопыт асабістай экзістэнцыі. Апроч таго, у гэтай аповесці "двух герояў" сведчыцца адмыслова-беларуская амбівалентнасць мужчынскага і жаночага ў народным характары. Менавіта — філасафізм і бесстароннасць да вонкавага жыцця мужчыны — Петрака, і — дзейнасць і актыўнае процістаянне цячэнню жыцця жанчыны — Сцепаніда. Урэшце абое прыходзяць да аднаго выніку — духоўнай свабоды; абое ўнутрана не скараюцца сіле чужынцаў, і таму, па сутнасці, яны, сяляне, перамагаюць у той вайне, абмежаванай для іх ваколіцамі роднага хутара. У тым і сімвалізм, і эзатэрычны сэнс аповесці. (Між тым вядома, што і фактычна здабылі перамогу ў другой сусветнай вайне такія ж простыя людзі-працаўнікі; славутую партызанскую вайну на тэрыторыі Беларусі вёў у пераважнай большасці беларускі селянін.)

Калі заўгодна, Пятрок з аповесці "Знак бяды" Васіля Быкава ўвасабляе старазапаветны, юдэйскі пачатак у народным характары; Сцепаніда — пачатак хрысціянскі, новазапаветны, еўрапейскі. Іх анталагічны сімбіёз спарадзіў надзвычайную духоўную сілу, моц, што яшчэ больш узмацнілася, пакладзеная на паганскі (язычніцкі) падмурак. Праклінаючы зямлю пакут, гэтыя людзі імкнуцца не да долу, а ўверх, да Неба, туды, дзе ім павінна быць лёгка. На зямлі застаюцца толькі іх сляды, няўзворанае поле пад назвай Галгофа ды папялішча дома — вось і ўвесь зямны плён беларускага жыцця. Сляды, Галгофа і папялішча. Спробы, гвалт і Хатынь. XX стагоддзе.

... Пабуранае котлішча, папялішча на месцы колішняй дамоўкі страчае і адзіны герой іншай аповесці Васіля Быкава —"Аблава" селянін Хведар Роўба, што з сям'ёй быў высланы пад Котлас як "кулацкі элемент". Сюжэт як быццам публіцыстычны, але гэта толькі знешне. Увогуле савецкая літаратура была вымушана пісаць на палітычныя тэмы, бо ў поглядах на савецкі лад, сталінізм, праходзіла асноўная лінія і псіхалагічнага, і — праз гэта — эстэтычнага напружання мастака... Патрэбаю СКАЗАЦЬ ПРАЎДУ і спароджаны ў першую чаргу і салжаніцынскі "Архіпелаг ГУЛАГ", і быкаўская славутая аповесць сярэдзіны 60-х гадоў "Мёртвым не баліць". Фактура савецкай гісторыі сталася галоўнай у савецкай літаратуры цалкам заканамерна.

Але — тут я вяртаюся да згаданай аповесці "Аблава" — сапраўдны мастакоўскі талент за фактурай гісторыі "ўнутраным зрокам" зазвычай бачыць выявы сутнаснага ў сваім народзе і ў сваім часе. І для мастака не так важна, у якіх гістарычных варунках, у якім менавіта часе выяўляецца народная анталогія, архетыпы яго духоўнасці. Увогуле, як здаецца, Васіль Быкаў ва ўсіх сваіх творах шукаў адказ на адно пытанне: што дае чалавеку Сэнс быцця, што дапамагае паасобкаваму чалавеку ўтрымацца на краёчку быцця. У франтавых аповесцях той адказ быў адным, больш публіцыстычна-дыдактычным, чым анталагічным; у творах цывільных, "людовых" — адказ інакшы, глыбейшы, менавіта анталагічны. Вось, напрыклад, у аповесці "Аблава", на прыкладзе знясіленага, зацкаванага сталінскай аблавай беларускага селяніна, "пана сахі і касы", згубіўшага па віне савецкай улады ў жыцці ўсё — і жонку з дачушкай (загінулі ў лагеры для рэпрасаваных), і свой дом з гаспадаркай (канфіскавала і разрабавала ўлада), і сына — пайшоў у камсамольскія работнікі, адрокся ад бацькі-кулака, — пісьменнік спрабуе асягнуць апошнюю мяжу, ускраек Сэнсу ў свядомасці гэтага чалавека — пасяленца XX стагоддзя, звычайнага селяніна, адзінай субстанцыяй стасункаў якога праз стагоддзі была Зямля. Ціхі, мяккі, зважлівы, крыху набожны і прымхлівы (зусім як і папярэдні герой, Пятрок са "Знаку бяды"), ён, у варунках скасавання ўладаю і без таго небагатага зямнога нажытку, страты якога-кольвек зямнога апірышча, знаходзіць адзінае — магічнае выйсце, каб не звар'яцець на юдолі часу. З лагера ён доўгія месяцы прабіраўся дамоў не дзеля таго, каб загаспадарыць — таго не дасць яму зямны парадак, — а каб ЗІРНУЦЬ І ПАМЕРЦІ. Зірнуць — на свой дом і падвор'е, родны краявід, і толькі затым — памерці. Без зnative... 

Без знітаванасці з роднай, родавай матэрыяй гэты чалавек пачуваецца ў жахлівай экзістэнцыйнай пустаце, з-за якой не здольны нават памерці, развітацца з жыццём. І таму Хведар Роўба, патомны ратай, прыходзіць на радзіму. Бачыць ён пабуранае котлішча, адчужаных аднавяскоўцаў, ад якіх вымушаны хавацца ў лесе. Але пабачаны малы апакаліпсіс не скасоўвае яго запаветных спадзяванняў, не перашкаджае здабыць галоўную, магічную апору экзістэнцыі — інфернальную лучнасць з памерлымі продкамі. Пад святлом поўні, на вясковых могілках чалавек нарэшце супакойваецца душою, здабывае тую крупінку Сэнсу быцця, да якой мусіў ісці праз ліхоты зямнога лёсу. Сімвалічны зыход гэтай адзінокай драмы — у фінале аповесці герой нарэшце раствараецца ў багне, загнаны туды камсамольскай аблогай, істотай, плоцю сваёй зліваецца з прыродай; "быў тло і ў тло абярнуўся".

У дадзеным выпадку чалавека правёў і вывеў з зямнога часу покліч Танатаса — дух памерлых продкаў. Іншага паратунку ў такіх акалічнасцях быццё і не магло прапанаваць.

Такі змест дзвюх аповесцяў Васіля Быкава. Як бачым, эзатэрыка, магічныя матывы змаглі выявіцца і ў творчасці гэтага, здавалася, цалкам ваеннага і рэалістычнага пісьменніка. Выявіцца — напэўна, па-за свядомасцю самога аўтара, як каркас той падводнай часткі айсберга, што мацуе ўсе бачныя пласты творчасці. У апошняй сваёй аповесці — "Сцюжа", пачатай яшчэ ў 1969 годзе, скончанай у 1991-м, Васіль Быкаў спрабуе паказаць працэс перараджэння светлай з нарòдзінаў асобы, вясковага хлопца, апантанага служку таталітарнай сістэмы. Там — і паяднанне з камсамольскай блудніцай, і сімвалічнае, фаўстаўскае падпісанне даносу на невінаватага чалавека, і затым імпэтнае штудыяванне партыйнай навукі, "раскулачванне" ўласных жа аднавяскоўцаў, бацькоў... І, урэшце, — поўнае душэўнае спусташэнне. На пачатку вайны няўдалага камсамольскага "важака" ратуе ад немцаў простая вясковая жанчына — сімвал векавечнай народнай жыццятворнай сілы, незагубленага Эрасу... Праўда, у гэтай аповесці абразок эзатэрыкі больш публіцыстычны, чым у аповесцях "Знак бяды" і "Аблава".

Такім чынам, калі падагульняць, праз прызму эзатэрычнага бачання беларускай мастацкай літаратуры паўстае народны тып, што цалкам захоўвае магічную, дахрысціянскіх вытокаў повязь з продкамі; які спавядае пантэізм і анімізм; які адракаецца ад уласнай плоці дзеля выратавання духу, дзеля здабыцця вышэйшай для сябе, нябеснай ісціны, — але маўкліва туліць гэтую ісціну ў сабе, хавае ў глыбіні душы. Духоўнасць гэтага народнага тыпу — беларускага — па выяўленні сваім наўменальная, рэч у сабе; магічнае ядро гэтай ментальнасці пакуль не расшчэплена, і ў гэтым і палягае ці не галоўная загадка этнасу, што выхаваў і А.Міцкевіча, і С.Манюшку, і М.Агіскага... даў гены Ф.Дастаеўскаму, Г.Апалінеру, Т.Касцюшку...

Думаецца, што загадку, сутнасць свайго народа ці не найбольш трапна выказаў выдатны беларускі географ і палітык, адзін са стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі Аркадзь Смоліч (загінуў у сталінскім ГУЛАГу ў 30-х гадах): "Беларус быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыны, тае будучыны, калі справядлівасць запануе між народамі, але быў мала падгатаваным да змагання за быт, за жыццё, якое йшло вакола яго і яго коштам, але на яго шкоду... Ён... насяліў сьвет вакола сябе разнароднымі духамі, благімі і добрымі, і жывець напалову ў свеце духаў" (Смоліч А. Геаграфія Беларусі). ЖЫВЕЦЬ НАПАЛОВУ Ў СВЕЦЕ ДУХАЎ — вось яна, сутнасць народнай беларускай экзістэнцыі. Духі клічуць нас у Неба, яны ж апекуюцца і Смерцю. На Зямлі застаюцца сляды.

---

** Адмыслова дзеля "ЗНО" тэксты не адаптоўваліся, за выключэннем нязначных скарачэнняў. — Рэд.*

---

г.зн. пастаноўку чалавека (персанажа) на адзіноце з яго інстынктамі, эмоцыямі, думкамі; на адзіноце з вечнымі "праклятымі пытаннямі", якія, нават "калектыўна" важныя, патрабуюць заўжды індывідуальных рашэнняў. Паколькі асабовасць у такім грамадстве ўсяляк ігнаравалася, была непатрэбнай, а то й пагрозлівай для яго, дык і адна з найасабовейшых сітуацый — усведамленне чалавекам канцовасці жыцця і адпаведна яго рэакцыі, паводзіны, жыццёвы выбар — таксама былі пад негалоснаю забаронай.

А тым часам таталітарны рэжым сам масава прадукаваў некрафілію, забойцаў і самазабойцаў. І іхні найсімвалічны партрэт след шукаць, як мы ўжо ведаем, не ў айчыннай літаратуры.

## 2.

Адным з такіх "партрэтаў" ёсць вобраз рымскага імператара Калігулы — у тым выглядзе, у якім ён паўстае ў аднайменнай п'есе Альбера Камю. Як вядома, гэта рэч 1938 года адкрывае першы этап творчасці прадстаўніка экзістэнцыялізму, вызначаны ім самім, як "цыкл абсурду" (што ўключае таксама аповесць "Чужаніца" ды філасофскі трактат "Міт пра Сізіфа").

Упершыню імя Калігулы сустракаецца ў дзённіках Камю за студзень 1937 года. Маючаму быць нобелеўскаму лаўрэату ішоў дваццаць чацвёрты год.

Першапачатковая назва п'есы "Калігула, або Гулец" адсылае нас да тэорыі "лагічнага самагубства", адкрытай маладым Камю ў эсэ "Дастаеўскі і самагубства" (пад назваю "Кірылаў" яно ўвайшло як адзін з раздзелаў у "Міт пра Сізіфа"). Спазнаўшы шматразовыя аўтарскія папраўкі (найбольш істотнымі лічацца рэдакцыі 1944 і 1947 гадоў, хоць астатнія сцэнічныя ўдакладненні Камю рабіў нават у 1958 годзе, незадоўга да гібелі), твор істотна змяняўся як у агульнай лініі, так і, асабліва, у характарыстыцы галоўнага героя (падчас пастановак у толькі што вызваленай Францыі гледачы пазнавалі ў Калігуле Гітлера). Дыялектыкуператварэння "метафізічнага паўстанца" ў фашыста, як і супярэчнасці, закладзеныя адпачатку ў вобразе Калігулы, найяскрава, мабыць, вызначыў сам Камю. "Калігула" — пісаў ён пра сваю п'есу, — гэта гісторыя вышэйшага самагубства. Гісторыя, напоўніцу трагічная і чалавечая. Пэўны самому сабе, але несправядлівы да бліжніх, Калігула пагаджаецца памерці, спазнаўшы, што ніхто не здольны ўратавацца паасобку і што не можна быць свабодным супраць іншых людзей... Калі праўда Калігулы — у яго бунце, то яго памылка — у адмаўленні людзей. "Нельга ўсё зруйнаваць, не зруйнаваўшы самога сябе".

Відавочна, гэтая ганебная "чалавечнасць" гісторыі, выкладзенай Камю, не вельмі адпавядае вобразам Гітлера ці Сталіна, ці не найбольшых "вярхоўных самагубцаў" (Гітлера — у прамым значэнні; што ж да Сталіна, дык і яго смерць, за найноўшымі звесткамі, мае таксама ці нямала агульнага з "вярхоўнай" пагібеллю Калігулы ад рук змоўнікаў). Прынамсі, у тым выглядзе, у якім тыраны нашага часу паўстаюць ва ўяўленні звычайнага чалавека; бо ж зразумела, што падмуркам іхніх гістарычных роляў таксама ёсць "праўда" пэўных "чалавечых" комплексаў.

У чым жа бачыць Камю "праўду" свайго героя? Гэта цікава тым болей, што "ісціна" Калігулы мае наўпросты стасунак да аналізу "абсурднага", або, як яшчэ яго называюць, "метафізічнага" ці "сюррэалістычнага" бунту — бунту, у аснове якога пратэст супраць смерці.

Мы знаёмімся з імператарам, калі пасля страты сястры-каханкі Друзілы ён адкрывае "нясцерпнасць быцця", "ісціну", што штурхае да процідзеяння: "Людзі паміраюць, і таму яны нешчаслівыя". Адзін з суразмоўнікаў, вызначаючы сутнасць яго пагрозы асягнуць немагчымае, заўважае, што ніхто, аднак, не намагаецца здзейсніць тую пагрозу цалкам. "Ты пра гэта нічога не ведаеш, — адказвае малады тыран. — Хто не намагаецца здзейсніць яго цалкам, той нічога не здабудзе. Прынамсі трэба быць лагічным да канца."

Сама ж трагедыя Калігулы перастае быць чалавечай. "Метафізічны" бунт героя выяўляецца ў акцыях, добра вядомых з "Жыцця дванаццаці цэзараў" Святонія: ад здзеку над багамі і сенатарамі да непрыхаванага тэрору і штучна арганізаванага голаду. "Вярхоўны самагубца" робіцца надчалавекам, сапраўднай "бялявай бестыяй" і, як ён сам кажа, "замяняе сабой чуму". (Гэтак упершыню ў Камю з'яўляецца слова, што неўзабаве стане назвай найлепшага яго твора.)

Парадоксы гісторыі, у якой "жыццё цэзараў" у XX стагоддзі паўтарылася серыяй крывавых дыктатур наўсцяж, як і палітычныя прычыны такіх паўтарэнняў, не ёсць, аднак, мэтай майго выступу. Нас цікавіць філасофскі падмурак — тая "логіка да канца" героя Камю. І з філасофскага гледзішча ў ім хутчэй можна ўбачыць не Гітлера, а Ніцшэ. Як бы мы "па-чалавечы" не спачувалі герою п'есы альбо яго прататыпу, чыя "галгофа розуму" сплачана вар'яцтвам, але, як зазначыў Камю ў эсэ "Чалавек бунтоўны" (1951), "сама плыня, што ўсё мацней захоплівала Ніцшэ, мела сваю логіку і заканамернасць, якімі тлумачацца крывавыя пераліцаванні яго філасофіі... Пропаведзь надчалавека ўвянчалася метадычнай падрыхтоўкай недачалавекаў".

Можна паспачуваць Калігуле (літаратурнаму герою), які без вагання аддаецца рукам забойцаў — тым болей, што яго атачэнне не выклікае якіх-кольвек сімпатый. Але варта не пагадзіцца з антаганістам Калігулы Херэа, які, папярэджваючы патрыцыяў: "Я не буду служыць потым ніводнаму з вашых інтарэсаў", настойвае ўсё-такі на забойстве тырана: "Бачыце, як страчваецца разумнасць жыцця, знікае сэнс нашага быцця, — вось што нясцерпна. Жыць без сэнсу не можна... Я магу прымірыцца з тым, што з вас здзекуюцца, але не магу пагадзіцца, каб Калігула рабіў тое, што ён марыць зрабіць... Ён выразіў сваю філасофію ў трупах".

У "Кірылаве" Камю гаварыў пра маральны выбар свайго вялікага настаўніка. Дастаеўскі, на яго думку, "процістаіць уласным героям", супрацьпастаўляючы формуле "жыццё — няпраўда, або яно вечнае" іншую формулу: "жыццё — няпраўда, і яно вечнае". Няцяжка прачытаць між радкоў "Калігулы", што падобны выбар робіць і малады экзістэнцыяліст, усё больш паслядоўна супрацьпастаўляючы "лагічнаму самаапраўданню зла" "такое ж лагічнае апраўданне выбару на карысць дабра" ("Чалавек бунтоўны").

... Перачытваючы Камю ці Сартра, не раз ловіш сябе на думцы, што фальклорнае народнае (і хрысціянскае) табу на думкі пра смерць як несумніўную канцовасць існавання выглядае значна "маральнейшым", чым нуда адчаю, што не раз прыводзіць да вядомага выбару: "Бога няма, таму ўсё дазволена". Але калі чалавек не думае, а толькі верыць, — за яго думаюць (і дзеяць!) іншыя. "Пагодзімся, — кажа ў п'есе Херэа пра свайго антаганіста, — што ўплыў яго незапярэчны. Ён змушае думаць. Ён усіх змушае думаць. Небяспека — вось што змушае думаць".

## 3.

Ці можна аднак сцвярджаць, што дэструктыўнасць Калігулы абумоўлена "любоўю да смерці"? Хоць ён і выражае сваю філасофію ў трупах, прытым у аснове агрэсіўнасці камюўскага імператара ляжыць якраз страх смерці (уласнай) і несупынная прага ўласнага жыцця — коштам чужой крыві. Тое, што Калігула не супраціўляецца прэтарыянцам, а нібы сам шукае пагібелі, не пярэчыць той празе. Пра гвалт такога тыпу Э.Фром пісаў: "Праліццё крыві азначае адчуванне сябе жывым, дужым, непаўторным, больш значным ад усіх іншых... Насупраць, быць забітым — адзіная лагічная альтэрнатыва забойству. У архаічным разуменні раўнавага жыцця дасягаецца тым, што чалавек забівае як мага болей і сам гатовы быць забітым... Гэта — сцвярджэнне і трансцэндаванне жыцця на глебе найглыбокай рэгрэсіі" (Fromm Erich. Die Seele des Menschen: ihre Fähiakeit zum Luten").

Але Калігула марна дамагаецца "філасофскай" насалоды ад смяротных пакут сваіх ахвяр — тады як прымітыўны садыст атрымлівае яе без жаданай філасофіі. Чым жа абумоўлена расчараванне Калігулы? На пачатку п'есы ён перажывае ўзрушэнне веры, якое робіць яго цынікам і руйнавальнікам, "але так ці інакш усё ж стаіць на службе ў жыцця (альбо магічна, альбо прынамсі як спадкаемец... расчаравання жыццём"). Затым логіка п'есы ператварае ўсемагутнага цэзара ў маральнага калеку, які знішчае... бо не здольны нічога тварыць пазітыўна. Пры тым гэты матыў ужо не належыць задуме пісьменніка. Ён узнікае ў нашым успрыняцці відавочна спантанна, як

*(Працяг на стар. 8—9)*




## Эзра ПАУНД

# "ДРЭВАМ БЫЎ Я СЯРОД ЛЕСУ..."

**Паунд Эзра Льюміс (1885 — 1972), амерыканец, які большую частку жыцця пражыў у Еўропе. Адзін з найвялікшых паэтаў XX стагоддзя, але ў нас яго імя амаль не згадвалася. Прычынай таму — супрацоўніцтва з рэжымам Мусаліні.**

**Калі не памыляемся, гэта першая публікацыя Эзры Паунда на Беларусі. Пераклад вершаў зроблены Янкам Юхнаўцом і раней быў надрукаваны ў "Запісах" (БіНіМ, N19 за 1989 г.).**

### *THE TREE*

*Як дрэва няшумлівае*
*я быў між дрэў у лесе*
*і праўдай рэчаў раней мне невядомых*
*акрыялы я стаяў;*

*Пра Дафну між галін лаўровых*
*й багамі жыўленая старая двойнасьць*
*расла што ўзвышна ліпай-дубам.*

*Гэтага ня было пакуль багі дабротныя*
*зьявіліся, і прынеслі аж туды,*
*сардэчнасьць іхную*
*у паселішчы сардэчныя,*
*магчыма і стварылі — о сьведамасьць цудоўная!*

*Аджа дрэвам быў я сярод лесу;*
*і шмат значэньняў рэчаў зразумеў,*
*тое што раней галаву дурніла.*

### *TAME CAT*

*Я адпачываю між жанчынаў прыгожых —*
*навошта хлусіць пра гэта?*
*Я уторваюся:*
*я кот*
*між гутарных жанчын прыгожых,*
*навет калі размаўляюць яны*
*пра ўсё і нічога.*
*Мурканьне маё ўвага незаўважаная,*
*але нам усім прыемна*
*і да чагосьці ўзбухторвае.*

### *THE TEA SHOP*

*Дзяўчына, дзе гарбату прадаюць,*
*не такая была прыгожая.*
*Месяц Жнівень яе стаміў.*
*Яна ня была руплівая;*
*так паслуга круціць гады сярэднія.*

*Маладосьці зіхтнасьць была над намі,*
*калі прынесла нам гарбату,*
*і гады сярэднія яе*
*між намі не распаўсюдзіліся.*

### *SALUTATION*

*О, пакаленьне затуманенае імкненнасьцяй,*
*і заўсёды няўрымсьцінае!*
*Я бачыў рыбаловаў бязьлябярных пад сонцам;*
*я бачыў іх зь сем'ямі неахайнымі;*
*у іх бываюць усьмешкі ненахабныя;*
*чуў сарамотнае рагатаньне іхнае —*
*шчэруцца тады, у поўны рот зубамі.*

*Можа шчасьлівейшыя чым яны ўсе*
*я быў шчасьлівым паміж імі.*

*Але рыба натолілася вадой удоваль*
*плавае ў вадзе голая,*
*ёй вопратка не патрэбна.*

### *ALBA*

*Салавей сьпявае, кліча салаўіху,*
*праз ноч усю сьпявае няўціхна.*

*Маё каханьне неадступнае*
*сьцерагу між кветак*
*у алтанцы,*
*пакуль стораж зь недалёкай вежы*
*крыкне:*

*— Эй, прыгоднік, выйдзі!*
*Паглядзі, як сьвятлячкі*
*ўночы лётаюць.*

### *ERAT HORA*

*— Удзячная табе што будзе, і што здарыцца...*
*А тады ты хутка адыйшла,*
*як промень сонца патускнелы*
*на кветках зьвялых*
*ветрам расьхінутыя на ўсе бакі.*

*О не! Што будзе, што надарыцца*
*ў адну гадзіну сонца-сьвету,*
*калі вядомыя багі*
*можа не пахваляцца*
*найлепшымі здарэньнямі.*
*Прапілнуй імгненную гадзіну*
*як яна мінула.*

**Пераклад Янкі Юхнаўца.**

# ТРАДЫЦЫЯ*

*Penitus enim tibi O Phoebe*
*attributa est cantus***

## I

Традыцыя — гэта прыгажосць, якую мы ахоўваем, а не путы, якія нас стрымліваюць. Традыцыя не пачынаецца ў 1870, у 1776, у 1632 ці 1564 гадах. Яна не пачынаецца нават з Чосера.

Нас цікавяць дзве вялікія традыцыі — мелічная і правансальская. Першая нарадзіла практычна ўсю паэзію антычнага свету, другая — усю сучасную. Несумненна таксама, што ім папярэднічалі вавілонская і хетская традыцыі, звесткі пра якія большай часткаю страчаныя. Мы ведаем, што рытуальныя абрады, прысвечаныя Мітры, суправаджаліся працяглымі распевамі. Вядома, што паэзія існавала ў Егіпце і ў Кітаі. Магчыма, вершы складаліся ўжо ва Уруку. У Японіі атрымала распаўсюджанне аглютынатыўная метрыка, якая выходзіць за межы майго цяперашняга разумення.

У звязку з асаблівымі гістарычнымі ўмовамі англійская паэзія мае сваімі вытокамі абедзве згаданыя традыцыі. Цяпер ужо немагчыма ігнараваць той факт, што і грэцкая і правансальская паэзія дасягнулі рытмічнай і метрычнай дасканаласці ў тыя часы, калі мастацтва вершаскладання і музыка былі непасрэдна звязаныя адно з адным, калі кожны паэтычны твор праменіў пэўны музычны імпульс або ўтрымліваў музычныя элементы ў сваёй аснове. Але ўжо рымляне са сваімі дашчэчкамі, у адрозненне ад ранейшых паэтаў, якія тварылі пад акампанемент цытры ці лютні, зусім не імкнуліся да напеўнасці.

Што да паралельнага развіцця гэтых блізняткавых мастацтваў у наступныя часы, то можна адзначыць, што правансальская "canzo" патроху ператваралася ў італьянскую "canzone", а ў тую пару, калі Дантэ і ягоныя сучаснікі ўзяліся складаць філасофскія трактаты ў вершах, гук альбо акампанемент загучаў сам па сабе, спакваля, афармляючыся ў санатную форму. І з моманту гэтага размежавання паэзія стала сыходзіць у нішто, пакуль Баіф і Плеяда не пачалі культываваць у Францыі грэцкі, лацінскі ды італьянскі рэнесансныя стылі і эксперыментаваць з мелодыкай і "працягласцю".

У гэтым жа стагоддзі істотна абнавілі сваю паэзію й італійцы. Яны пачалі карыстаць лаціну, а сёй-той нават грэцкую, ды ўжываць элінскія метры. Тым часам Дю Беле пераклаў Наваджара на французскую, а Спенсер пераклаў версію Дю Беле на ангельскую. Пачынаючы з чосераўскіх часоў ангельцы сталі пераймаць паэтычную тэхніку з-за Ла-Маншу. Елізавецінцы "тварылі" пад музыку, капіруючы эксперыменты Парыжа. Так хваля адной з дзвюх гэтых традыцый даганяла і пакрывала другую хвалю, больш раннюю, і якая ўжо адступіла. Лепшы трубадур спяваў пры двары Рычарда Львінае Сэрца. Чосер улучыў у вершаскладанне французскую мову і паставіў крыж на англасакскім стылі. Гэтак правансальская "canzon" ператварылася ў канцону, у санет, у Minnesang, у баладу і спарадзіла ўсю наступную елізавецінскую шматстайнасць паэтычных формаў. І ў гэты час нахлынула наступная хваля з Парыжа, хваля часткова раманская (у лінгвістычным сэнсе), часткова лацінская. Але ўплыў правансальскай паэзіі да пэўнай ступені і ёсць уплыў

# ЛЮБОЎ ДА СМЕРЦІ: ТЭМА "НЕКРАФІЛІІ" Ў ЕЎРАПЕЙСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XX СТАГОДДЗЯ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 6)*

адгалосак вядомага гістарычнага кантэксту. Тым часам напоўніцу тэма кампенсатарнага гвалту, вобраз некрафіла-імпатэнта выявіцца ў апавяданні, напісаным таксама ў канцы 30-х і таксама пяром маладога французскага экзістэнцыяльнага аўтара Ж.-П. Сартра.

Сартр таксама называе свайго героя знакамітым і сімвалічным гістарычным імем — "Герастрат", але пры гэтым "вымае" яго з гістарычна-міталагічнага кантэксту і робіць сучасным дробным службоўцам (як і Камю ў іншым творы таго ж часу — "Чужаніцы"). Больш таго, цынічны і пазбаўлены пакрыёмай камюўскай сентыментальнасці, Сартр паказвае Поля Гільбера сексуальна непаўнавартасным маньякам, некрафілам як у шырокім псіхааналітычным, так і груба сексапаталагічным плане, чый "сюррэалістычны бунт" (а герой спрабуе *літаральна* рэалізаваць "Другі маніфест сюррэалізму" Андрэ Брэтона) на справе выяўляецца бунтам імпатэнта, не здольнага ані на "прыгожае" забойства, ані на "прыгожае самазабойства".

Віну за фіяска наш "герастрат" намагаецца перакласці на людзей, уласна на само жыццё, але ўрэшце толькі напоўніцу выяўляе ўласны... *анальна-садысцкі характар*, кажучы тэрмінам Фройда. Па сутнасці незнарок выпусціўшы тры кулі ў жывот сустрэчнага таўстуна, Гільбер істэрычна выгуквае: "Падла!.. Паскудная падла!", а спалохаўшыся накласці на сябе рукі ў прыбіральні якогась шынка, абвінавачвае перасьледнікаў: "Яны чакалі мяне, яны давалі мне поўную магчымасць памерці. Нягоднікі, яны баяліся!" (Увогуле, стылістыка Сартра — асобная тэма: чаго варты хоць бы часта згадваны крытыкай некрафільскі матыў "мыцця": маці на бідэ, за якой падглядае сыночак-фрайдыст; кавалак зялёнага мыльца, які забірае з сабою Гільбер пасля паталагічнай сцэны; роздумы Люлю ў "Інтымным" пра каханне, "дзеля якога мы ўсе мыемся", і пра тое, што ў чалавеку трэба ўсё любіць — і стрававод, і пячонку, і кішкі"... — цікава, ці ведаў тады празаік шырока мусіраванае сталінскім рэжымам выслоўе Чэхава пра "твар, адзенне і думкі"?)

Акт "ісціннага быцця" канчаецца прымітыўным побытам у паліцэйскім пастарунку. Але не забывайма, што распачынаўся ён з трансфармаванай сентэнцыі Дэкарта: *я існую, бо маю права.* Гэты матыў (цалкам, магчыма, звязаны з вядомай дылемай Дастаеўскага "Тварь дрожащая, или право имею?") з'яўляецца ўжо ў рамане "Нудота" (1938), але ў "Герастраце"" "дапушчэнне" пераходзіць у агульнае анталагічнае права "выбраных" на жыццё і смерць — перадусім іншых людзей.

Нагадаем, што Сартр і іншыя аўтары "філасофіі існавання", якія на Захадзе ўжо даўно сталі паважанымі класікамі поруч з атакаванымі імі гуманістамі папярэдніх эпох, зараз, можа, самі таму (а не проста праз забароненасць або маладаступнасць той літаратуры ў нядаўнія дзесяцігоддзі) перажываюць сапраўднае другое нараджэнне ў колішніх "радавых"** рэспубліках, што інтэлектуальныя, рэлігійныя, маральныя, эмацыйныя праблемы і кіданні іхніх герояў як ніколі адпавядаюць становішчу нашага цяперашняга міжчасся і між-быцця, духоўнай (палітычнай і эканамічнай, вядома ж, таксама) неўладкаванасці і нявызначанасці індывіда ў посткамуністычным грамадстве.

Небяспека змушае думаць, казаў Камю. У яго ды Сартра эпосе то была перадусім небяспека фашызму (ва ўсіх яго аспектах — палітычным, філасофскім, псіхалагічным). У наш час гэта небяспека больш размытая; магчыма, не так выразна акрэсленая; магчыма — набывае нечаканыя звівы і павароты. Калі прасачыць яе адлюстраванне ў еўрапейскай літаратуры, заўважым, што на змену напалову багавідным і над-эмацыйным "вярхоўным самагубцам" ды "чорным героям" прыйшоў тып чалавека халоднага і моцнага розуму пры поўнай адсутнасці эмацыйнага свету — стэрыльнага гамункулуса без "паху", без апрычонасці, для якога жыццё *ў прынцыпе* ёсць агіднае і будзённае.

На змену Калігуле і Герастрату прыйшоў Парфюмер.

## 4.

Пасля выхаду рамана Умберта Эко "Імя ружы" (1980), здаецца, ніводзін літаратурны твор не меў такога поспеху, як апублікаваны праз пяць гадоў "Das Parfum" Патрыка Зюскінда (1985; ва ўкраінскім перакладзе "Запахи", у расійскім "Парфюмер").

У геніяльнай, не пабаюся сказаць, кампіляцыі разmaітых зместавых ды фармальных кампанентаў, інтэртэкстуальных адсылак ды намёкаў нас цікавіць толькі аспект з характарыстыкі галоўнага героя — "найбольшага парфюмера ўсіх часоў і народаў", чалавека, надаронага магчымасцямі выключнай улады над іншымі людзьмі, які цалкам, дзякуючы ўласным моташным вымогам, не спыняючыся перад злачынам і не ўсведамляючы яго як злачын, выкарыстоўвае тыя магчымасці... і адмаўляецца ад іх рэалізацыі, каб загінуць смерцю Азірыса і Арфея.

Уласна, Жан-Батыст Грэнуй з рамана Зюскінда да найдрабнейшых дэталяў увасабляе асноўныя рысы "некрафіла", як яны вызначаны Фромам у згаданай працы "Душа чалавека". "Няздольнасць смяяцца, застыглае і малавыразнае аблічча", "нежывая, сухая, нездаровага адцення скура", погляд на "дагэтушні свет як нячыстае і небяспечнае месца"; ён "неабыякавы да пахаў", "нібыта пастаянна да чагось прынюхваецца"; "у міфалогіі і паэзіі ён прадстаўлены сляпым альбо схільным да пячор ды глыбінь акіяна", такім, што "хацеў бы вярнуцца ў цемрыва мацярынскага ўлоння і ў мінулае арганічнае альбо тварнае існаванне"; часцей за ўсё да некрафіліі схільныя так званыя аутычныя дзеці, пазбаўленыя якога-небудзь эмацыйнага кантакту з маці і ўвогуле з іншымі людзьмі, ім уласцівы ўзмоцнены нарцысізм і нянавісць да іншых, што часта перарастае ў садызм як "схільнасць да абсалютнага і неабмежаванага кантролю над жывою істотай"... — па сутнасці, некрафіл, па Фрому, — "гэта "нармальны" чалавек, імпатэнтны ў эмацыянальным плане і таму схільны помсціць жыццю і прагнуць тае помсты.

"Мой труп, ляжаў ён у каменным склепе, зусім не дыхаючы, зусім не адчуваючы стуку свайго сэрца, — і ўсё-такі жыў такім інтэнсіўным і распусным жыццём, як ніхто іншы на свеце. Арэнаю тых захапленняў была... яго ўнутраная імперыя, куды ён яшчэ з народзінаў заакупаваў акрэсы ўсіх пахаў, якія толькі сустракаў. Каб наталіцца, ён перш здабываў з памяці самы ранні, самы аддалены: варожыя, затхлыя выпарэнні спальні мадам Гайяр,

латыні, бо нашэсце барбараў адбілася стратай даўгаты складаў і рыфмы сталі выкарыстоўвацца адно як адмысловыя ўпрыгожванні. Першы прыклад правансальскай лірыкі напісаны на латыні з правансальскім рэфрэнам.

Д-р Кер перапыніў пустую балбатню пра фальклорныя песні і прадэманстраваў нам сказ "Summer is ycummen in", які знайшоў пад лацінскімі словамі старажытнага канона.

## II

Вяртанне да вытокаў натхняе, бо гэта вяртанне да прыроды і сэнсу. Той, хто вяртаецца да вытокаў, робіць гэта з жадання паводзіць сябе нязменна разумным чынам. А значыць — натуральна, асэнсавана, інтуітыўна (...). Ён імкнецца не да педантызму, а да гармоніі, зладжанасці.

Тут не месца для доўгай дыскусіі пра тэхнічныя дэталі. Я не збіраюся доўга распавядаць пра ўжыванне і злоўжыванне рыфмай. Толькі абмяжуюся цверджаннем, што рыфма не ёсць ні абавязкам, ні табу.

Што да даўгаты, то наіўна думаць, быццам мы не здольныя адрозніць доўгія і кароткія галосныя ці не ў стане вызначыць, колькі зычных змяшчаецца паміж дзвюма галоснымі.

Да пытання пра цяжкасці верлібра: у сваёй працы пра мелічных паэтаў Jannaris прыйшоў да высновы, што яны пісалі вершы, каб агарнуць перажыванне, гарманізаваць яго. Ён не схільны лічыць, што на старажытных грэкаў маглі аказваць заўважнае ўздзеянне дыскусіі, што мелі месца ў Александрыі праз некалькі стагоддзяў.

Калі перакананаму прыхільніку агульнапрынятага цемрашальства выпадкова трапяць пад руку працы Еўрыпіда, а тым болей такія фрагменты, як Іпаліт 1268 і сл., Алкест 266 і сл., 455 і сл., ці Phoenissae 1030 et circa, ці працы іншага колькі-небудзь заўважнага грэцкага каментатара, то не выключана, што святло верлібра асвеціць трохі і яго мазгавыя звіліны. Няма такіх прасцякоў, якія лічаць, што музычны размер "чатыры чвэрці" патрабуе менавіта чатырох "чвэрцяў" у кожным такце, а пры размеры "сем восьмых" — сямі "асьмушак". Зусім магчыма, напрыклад, камбінацыя з "палавінкі", "чвэрці", "восьмай" ці якое-колек іншае спалучэнне, знойдзенае выпадкова ці абранае свядома. Ужыць гэты музычны труізм у вершах — значыць скарыстаць верлібр.

Настойваць, што гэтыя і гэтыя спалучэнні гучання і тэмпу недапушчальныя такое самае глупства, як і сцвярджаць, што мастаку нельга выкарыстоўваць чырвоны колер у левым верхнім куце карціны. Рух верша абмежаваны толькі характарам складоў і выразнасцю гучання, а таксама законамі музычнага і меладычнага рытму. Аб'ём нататкаў не дазваляе ператварыць іх ні ў трактат па мелодыцы, ні ў кампендыум па ўсіх відах верша, алітэрацыі, сілабікі, акцэнтуацыі і даўгаты. Да таго ж такая праца станецца хутчэй за ўсё марнай, бо наўрад ці знойдзецца чалавек, які змог бы засвоіць большую частку ўсяго гэтага інакш, чым самастойна і ўважана вывучаючы разнастайныя прыклады з лепшых рыфмаў, а таксама грунтоўна пазнаёміўшыся з тэорыяй і гісторыяй музыкі.

Дарэмнае і павярхоўнае ўпадабленне, паколькі рэальная карысць ад яго з'явіцца толькі тады, калі яно здзяйсняецца альбо дзеля больш дэталёвага азнаямлення, альбо ў якасці практычнага засваення тых ці іншых творчых матадаў.

---

* *"Poetry" III, 3 Dec. 1913.*

** *"О, Феб! Хваласпеву ва ўсім ты варты" (лац.). Пераклад зроблены праз расейскую мову.*

Людка СІЛЬНОВА

# "ПАЛЁТ ПАВОЛЬНЫ МАТЫЛЯ..."



### *КАСМІЧНЫ МАТЫЛЬ*

*1.*
*Вялікі празрысты матыль*
*З люстранымі крыламі*
*Свету і антысвету*
*Ляціць... і не ведае,*
*На якую яму сесці кветку...*

*2.*
*О, як знутры пабачыць тое,*
*Што бачыцца адно здаля:*
*Палёт*
*павольны*
*матыля*
*Жыцця — над з Анічога полем?*

### *КОЛЬЦЫ СПРУЖЫНЫ*

*Задуменны тралейбус*
*вязе на работу мяне...*
*Задуменна краіна*
*вязе да Еўропы мяне...*
*Задуменна планета*
*нясе па Сусвеце мяне...*

*Гэта кольцы спружыны,*
*Яе ж — пальцы сціскаюць мае!*

* * *

Сусвет (які іншыя называюць Бібліятэкаю...)
Хорхэ Луіс Борхэс

*Скажыце, навошта мы выснілі*
*Гэтую прыгожую Кнігу жыцця,*
*Калі яна так неахайна захоўваецца*
*У Сусветнай бібліятэцы?*
*І шыфраў яе — не знойдзеш*
*Ні ў якіх каталогах.*

### *ЧЫТАЮЧЫ "ЗНІЧ КРЫЖОВЫХ ДАРОГ"*

*1.*
*Жыццё, ты поўнае паэзіі,*
*Раптоўнай, бабчынай, гарэзлівай!..*

*2.*
*Як быццам жылу перарэзалі:*
*Цячэ й цячэ ў наш свет паэзія...*

* * *

*Усмешка Джаконды на вуснах дзіцяці.*
*"Хто ты, дачушка?" — "Касмічная маці:*

*Ніколі не ўведаць табе, дарагая,*
*Што я ў дваццаць першым стагоддзі пазнаю..."*

* * *

*О лексіка!*
*Дачка лесуна,*
*Прыгажуня лясная,*
*Алеська разбэрсаная...*

*Святы сінтаксіс!*
*Настаўнік з кіёчкам,*
*Мой шлях немаркотны*
*Усе лабірынты праз!..*

### *УНІЯ*

*Унія, снегам стагоддзяў схаваная*
*Руны!..*
*. ..*
*І вясною чаканае:*
*"Матухна, зелянее вунь!.."*

* * *

*Ты — спружына,*
*Мой вершык!*
*Ты сціснутая моц!*
*Не вынік ты — прычына!*
*І хвалевая плоць*
*Твая — як Выбух першы:*
*Ён даў Сусвет, жыццё,*
*Гісторыю... О вершы!*
*О светаадкрыццё!*



пах высахлай скуры яе рук; айцова-кіслы выдых патэра Тэр'е; істэрычны, гарачы пот гадавальніцы Бюссі; трупны смурод Цвінтара Нявінных; забойчы пах сваёй маткі. І ён наталяўся гідлівасцю і нянавісцю...

Грэнуй, гэты малы мужчынка, трымцеў ад узбуджэння, яго цела сутаргавата сціскалася ў хцівым задавальненні і выгіналася так, што дзеля якойсьці мэты ён біўся аб столь штольні, а потым павольна апускаўся... спустошаны і глыбока задаволены".

Тое, што адчувае падчас свайго сямігадовага біблейскага самотніцтва ў пячоры Грэнуй, нагадвае дэталёва прааналізаваны Фромам пануры ўнутраны свет Гітлера — ад насалоды гучаннем уласнага голасу да насалоды кадрамі бамбардавання Варшавы. Іншы раз здаецца, што Зюскінд непрыкметна навязвае паралель паміж сваім героем і вобразам самога д'ябла, падкрэсліваючы пазбаўленасць цяпла (ад Грэнуя вее холадам — згадаем манаўскага чорта), усмешкі, жарту; згадваючы пра кульгавасць ды нечуллівасць да болю, увогуле неймаверную жывучасць. Ды і ўласны, існуючы толькі ў прадчуванні *ягоны* пах нагадвае Грэнуя "хвалі смуроднага туману" — вобраз цалкам інфернальны. Але, калі д'ябал, дасягнуўшы жаданай улады над людзьмі, ператвараецца ў анёла, — Грэнуй не атрымлівае жаданай насалоды. Наадварот.

"Так, ён быў Вялікім Грэнуем! Цяпер гэта стала відавочным... Гэтай мэтай ён перажываў найбольшы трыумф свайго жыцця. І ён жахнуўся... Тое, чаго ён заўжды гэтак жарсна прагнуў, а менавіта, каб іншыя людзі яго любілі, — у момант поспеху стала нясцерпным для яго, бо сам ён іх не любіў... Але нянавісць яго да людзей не атрымала водгуку. Чым больш ён іх ненавідзеў, тым болей яны яго абагаўлялі, бо нішто ў ім не ўспрымалася як ісціна, акрамя прысвоенай ауры, водарнай маскі, украдзеных пахаў".

... Анёл у блакітнай куртцы, выпраменьваючы нечуваны і нясцерпны боскі водар, гіне, з'едзены юрам у экстазе усепаглынаючай любові, на тым самым смярдзючым месцы, дзе ён з'явіўся на свет, — прароча названаму Цвінтаром Нявінных. Урэшце пачынае здавацца, што й Грэнуй, і ўбачаныя "злачынныя элементы", ападкі, экскрэмент грамадства ў ролі вакханак, якія раздзіраюць Арфея, сапраўды нявінныя, бо *нявінныя ўбогія духам*, ці не так?

І тады хто вінен? — класічнае пытанне якога-небудзь дэтэктыва і якога-небудзь пераходнага гістарычнага перыяду...

Што і казаць, за анамнезам рэвалюцый і дыктатур XX стагоддзя, як хваробаў старэючага людства, мы можам вярнуцца ў яго пераломны дзіцячы і юначы ўзрост — у часы крывавых рымскіх імператараў... і "боскага класіцызму" (М.Фуко) дэ Садаў, Сен-Жустаў ды Банапартаў. У гэтым разуменні Патрык Зюскінд напісаў цалкам надзённы твор.

"Народ", што прадбачыць радасці "карнавальнага аўтадафэ" (Ю.Лотман), старанна прадумаўшы дэталі свята "ўскрыжавання разбойніка", — раптам выкрывае, што той разбойнік — Хрыстос, і далей перад намі разгортваецца сцэна масавай істэрыі напалову хрысціянскага, напалову паганскага Вялікага Дня Уваскрасаючага Бога, як у дзень Пасхі. Любоў да Бога пашыраецца, як тое і мае быць згодна з канонам, на ўсіх бліжніх, і архаічная карнавальна-рытуальная стыхія ўраз выдае прыхаваную эратычную сутнасць. І вось:

"У выніку запланаваная страта найагіднага ліхадзея свайго часу ператварылася ў найвялікшую вакханалію, якую бачыў свет пасля другога стагоддзя ад Нараджэння Хрыстовага: гжэчныя жанчыны разрывалі на сабе блузкі, з істэрычнымі выгукамі агалялі грудзі, кідаліся на зямлю з высока задзертымі дагары спадніцамі. Мужчыны з багавіднымі поглядамі, спатыкаючыся, блукалі тым полем хціва распляжанай плоці, трымцячымі пальцамі здабывалі з штаноў свае нібы ад нябачнага марозу задубелыя чэлясы, падалі з хрыпам куды давядзецца, зляглаліся з кім патрапіла ў наймагчымых паставах: дзед з нявіннай дзяўчынай, чарнароб з жонкай адваката, студэнт са служанкай, езуіт з франкмасонкаю — усе ўперамешку, як патрапіла, хто куды патрапіў. Паветра ўвільготнілася ад салодкага пітнога паху хэнці (spermy.— Рэд.) і напоўнілася крыкамі, рохканнем і стогнамі тысяч бесцій. Гэта было пекла".

І тут ашаламу чытачу пачынае згадвацца нешта да болю знаёмае: начныя гітлераўскія мітынгі, сталінскія дэманстрацыі, вулічныя гулянні... якія завяршаліся ўсё тымі ж віном і хэнцю ("што дзень будзе непрацоўным, было зразумела само сабою", піша Зюскінд).

Пытанне "хто вінен?" не застаецца адкрытым. Вінен вырадак "без паху" ці аб'яднаны ў "адным паху" "народ", заўжды гатовы аддацца немаведама якому Богу і немаведама што зрабіць па піянерскім закліку "Будзьце напагатове".

... На прыкладзе Гітлера, пісаў Эрых Фром, мы бачым, "як могуць паяднацца і ўзаемадзейнічаць у гісторыі псіхіка падуладнага дэструктыўным схільнасцям індывіда і палітычны рэжым, які спрыяе рэалізацыі самых моташных фантазій". "Звычайна, — заўважае філосаф, — не кожны руйнавальнік здольны стаць Гітлерам... Але ён можа стаць дзейсным эсэсаўцам... не выключана, што паміж нас жывуць сотні патэнцыяльных фюрэраў, якія змогуць прыйсці да ўлады, калі праб'е іх гістарычны час... Найбольшай небяспекай для людства ёсць не вырадак ці садыст, а нармальны чалавек, надзелены незвычайнай уладай".

... І сентыментальны Камю, які спачувае свайму закрываўленаму Калігуле, і саркастычны Сартр, які вывальвае свайго Герастрата ў клазетную сумесь экскрэментаў і мыльнай шумы; і іхні раўналетак (маю на ўвазе век аўтараў на час напісання згаданых твораў — як, дарэчы, і супольную ауру французскай літаратуры і нямецкай філасофіі, што іх агортвае) Патрык Зюскінд, які з постмадэрнісцкім цынізмам паядноўвае пачуццё і агіду, — паказалі нам вобраз знікаючага XX стагоддзя. Вобраз, магчыма, і выкрыўлены магічным люстэркам мастацкай творчасці, бо ж сярод людзей дагэтуль пераважалі не геніяльныя забойцы ці сексуальна непаўнацэнныя шызафрэнікі, а звычайныя асобы.

Людства намагаецца не задумвацца над магчымай пагібеллю, як і над зместам свайго цяперашняга існавання. *За чвэрць гадзіны да смерці* мы ўсё яшчэ жывыя, і ў тым суцяшэнне наша і нашай эпохі.

---

* *Аўтарка гэтага тэксту — украінскі літаратуразнавец і крытык (часопіс "Сучаснасць"). Падаецца, некаторыя яе заўвагі наконт "антычнага здароўя" ўкраінскай літаратуры (і нацыі) як метафару можна прыняць і на адрас беларускай культуры. Тэксты ўкраінскіх аўтараў падрыхтаваў да друку Юрась Залоска. — Рэд.*

** *савецкіх. — Рэд.*




# САЛОДКАЕ І ПРЫГОЖАЕ СЛОВА СВАБОДА

Імя Андрэя Волана, пры жыцці шырока вядомае не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім і Кароне, але і ў Еўропе, на стагоддзі было забытае нашчадкамі. Пра яго справы маўчалі гісторыкі, яго творы не траплялiся ў рукі навукоўцаў, а яго рэлігійныя ўяўленні замоўчваліся тэолагамі. Як магло такое здарыцца? Пытанне правамоцнае, хоць і не новае. Ужо ў 1843г. Міхал Балінскі ў сваіх "Пісьмах гістарычных" спрабуе адказаць на гэтае пытанне: маўляў, пісаў Волан свае творы ў лацінскай мове, якая ў той час ужо даўно выйшла з ужытку, таму і зніклі ягоныя працы ў пыльнай цішы кляштарных бібліятэк. Але згадайма: Эразм з Ратэрдама, буйнейшы латыніст эпохі Адраджэння, памёр у 1536-м, праз шэсць год пасля нараджэння Волана. У еўрапейскім навуковым супольніцтве лацінская мова ў гэты час яшчэ не страціла сваю папулярнасць, хоць, што праўда, усё часцей свае права на існаванне ў сферы навукі рашуча абвяшчаюць нацыянальныя мовы. Ды і на Беларусі тых часоў лацінка была добра вядомая ў шляхецкіх адукаваных колах. То, мусіць, не ў гэтым прычына забыцця. Ва ўсякім разе — не галоўная прычына.

На мой погляд, прычыну гэтую трэба шукаць у напрамках творчасці нашага навукоўца, у змесце, у накіраванасці, у літаратурных асаблівасцях яго твораў. Тэарэтычныя працы Волана, за рэдкім выключэннем, прысвечаны рэлігійнай тэматыцы, яны прасякнутыя духам Рэфармацыі, яны — таленавітае тэарэтычнае абгрунтаванне кальвінізму. Не дарма ж яго называлі "папам літоўскіх кальвіністаў".

Як прыхільнік і актыўны ўдзельнік рэфарматарскага руху, як таленавіты, паслядоўны і рашучы крытык афіцыйнага хрысціянства, як бліскучы палеміст ён быў чужы і варожы аднолькава для каталікоў, як і для праваслаўных. Распачатая ў хуткім часе Контррэфармацыя, рашучыя і паслядоўныя дзеянні езуітаў, ды і дзяржаўная палітыка абмяжоўвалі распаўсюджванне пратэстантызму на Беларусі. Ідэолагі ды тэарэтыкі Рэфармацыі выключаюцца з рэлігійна-палітычнага жыцця, ім наканаваны лёс дысідэнтаў і забыццё. Іх грамадская дзейнасць замоўчваецца, іхнія творы сівеюць ад кляштарнага пылу, а час ідзе, і нараджаюцца новыя людзі, і новыя клопаты і мэты вядуць іх наперад і ўсё далей і далей ад продкаў, знакамітых і зусім невядомых, успаміны, што зрэдку ўсплываюць у свядомасці, урэшце размываюцца часам, як туман сонечнымі праменямі. Мінулае. Забыццё. Такі твой лёс, чалавек.

Нарадзіўся Волан каля 1530 года ў Вялікай Польшчы ў шляхецкай сям'і. Звестак пра бацьку яго, шлёнскага шляхціца Яна Волана, вельмі мала: вядома, што ён і яго сям'я былі прыхільнікамі рэфармацтва. Адсюль і нававерства сына Андрэя. Аднак фарміраваўся юнак найперш пад уплывам сваёй маці Сафіі з роду Квілецкіх. Жанчына розуму светлага і душы шчырай, яна дала сыну не адны толькі веды. Працавітасць, прага да пазнання, імкненне да праўды, гатоўнасць і здольнасць стаяць за яе да апошняга, павага да іншадумцаў, і праца, праца — вось багацце, якое дала яму маці. Яна адкрыла яго талент, ласкай, шчырасцю і розумам сваім сагрэла яго, напаіла жыватворнаю сілаю.

Пачатковую адукацыю даравітае дзіця атрымала ў сям'і. Над яго розумам і сэрцам шчыраваў ксёндз Францішак Шпак. Ведаў і ўпэўненасці нававерскай набіраўся Волан і ад знакамітых у свой час ідэолагаў пратэстантызму, якія бывалі ў бацькоўскім доме. Сярод іх — сваяк Бальтазар Стржэменскі, земскі суддзя з Познані. Правазнаўца з вялікай практыкай і грунтоўнымі ведамі, чалавек знакаміты і паважаны ў грамадстве, ён аказаў рашучы ўплыў на светаўяўленні маладога Волана і на доўгія часы застаўся для яго першым узорам правільнага жыцця.

У трынаццаць год юнак паступае ва універсітэт Франкфурта-на-Одэры, дзе вывучае дыялектыку, рыторыку і практыкуецца ў лацінскай мове. З універсітэта Волан выносіць сама меней два здабыткі: глыбокія веды антычнай філасофіі і рымскай літаратуры і пратэстанцкую ўпэўненасць. З гэтым багаццем і прагай да дзейнасці ён пасля універсітэта і з'яўляецца на Літве. Падбіў яго на гэты крок дзядзька па маці Геронім Квілецкі, які на той час правіў маёнткамі каралевы Боны ў Літве. Квілецкі даўно цікавіўся поспехамі пляменніка, паважаў і шанаваў яго рэдкія здольнасці. Менавіта ў доме дзядзькі пачынае ён свой літоўскі шлях працягласцю ў жыццё. Тры гады пражыў Волан у доме Геранiма Квілецкага, пацвердзіўшы сваёй стараннасцю і працавітасцю спадзяванні дзядзькі, які і рэкамендаваў яго сакратаром Мікалаю Радзівілу.

З'явіўся Волан у доме Радзівілаў своечасова: гаспадар быў пад моцным уплывам "жэнеўскіх навінаў" і прыхільнікам рэформаў. Дзеля рэфармавання краю ён акружаў сябе аднадумцамі. Малады Волан прыйшоўся даспадобы знакамітаму гаспадару, які назаўжды прывязаў яго да Беларусі.

З дазволу Радзівіла і пры фінансавай падтрымцы Геранiма Квілецкага Волан, каб удасканаліцца ў навуках, паступае ва універсітэт Каралеўца і за тры гады (1550 — 1553) бліскуча закончыў поўны курс навук. Ён пашырыў свае веды ў старажытнагрэцкай і рымскай літаратуры, удасканаліўся ў еўрапейскіх мовах і лаціне, стаў выдатным знаўцам Святога Пісання. Радзівіл беражліва, але рашуча скіраваў талент Волана на службу Радзіме. Гэта Радзівіл рэкамендаваў яго сакратаром Жыгімонту Аўгусту. Ці то з лёгкае рукі Радзівіла, ці то праз свае таленты, але дыпламатычная кар'ера Волана была плённай і шчаслівай: ён служыў не толькі Жыгімонту Аўгусту, але і Стэфану Баторыю і Жыгімонту III.

Актыўная публічная дзейнасць не перашкаджала Волану ў яго навуковых даследаваннях. Піша ён шмат, піша бліскуча, найбольш лацінкай, можа ад жадання быць зразумелым у чужых краях, а можа і з якое іншае нагоды. Але, як піша Балінскі, і чужыя словы даходзяць да сваіх людзей, калі ў гэтых словах клопат аб бацькаўшчыне.

Найбольш значнай працай гэтага перыяду была выдадзеная паміж 1565 і 1566 гадамі "Размова паляка з літвінам", скіраваная супраць Ажэхоўскага з яго пагардай да Вялікага княства Літоўскага.

Дыпламатычная служба, актыўная палітычная дзейнасць абумовілі і з'яўленне аднаго з найглыбейшых твораў сацыяльна-палітычнае скіраванасці: "Аб палітычнай, альбо грамадзянскай свабодзе". Твор гэты, напісаны ў 1571 і выдадзены ў 1572г., вельмі хутка набыў вядомасць і павагу як сярод прыхільнікаў аўтара, гэтак і ў асяродку ягоных ворагаў. "Салодкае і прыгожае слова свабода" — так можна вызначыць змест гэтай працы. "Ніхто з разумных людзей не сумняваецца ў тым, што свабода больш за ўсё адпавядае чалавечай прыродзе, і ніхто, такім чынам, не нараджаецца рабом." Ці магчымая такая свабода? Няхай на гэтае пытанне адкажа сам Волан.

Я ж дадам толькі, што, пражыўшы доўгі век, ён памёр 6 студзеня 1610 года ў сваіх родавых Б'юцішках на Ашмяншчыне. Памёр у славе і вялікай пашане. Бруд і лаянка ягоных ворагаў, нялюдскасць даўнейшых і цяперашніх ворагаў Беларусі не сцёрлі імя Волана са старонак айчыннае гісторыі. Забытае не знікае: на вечным пергаменце Кліо жывуць імёны і дзеі ўсіх часоў. Раней ці пазней, але настае пара, калі мудрая гэтая муза разгортвае перад здзіўленымі нашчадкамі сваю кнігу быцця, адкуль набіраюцца яны гістарычнага досведу, розуму і праўды. І ажываюць з мінуўшчыны постаць і справы Волана як напамін нам, сучаснікам, аб тым, што "самае цудоўнае з усіх чалавечых даброт — свабода".

**Рыгор ГРУДНІЦКІ.**

# АБ ПАЛІТЫЧНАЙ АЛЬБО ГРАМАДЗЯНСКАЙ СВАБОДЗЕ




## Раздзел III
## Праўдзівае суджэнне аб свабодзе і яе найглыбейшых падставах

Усе філосафы вельмі аднадушна падаюць, ды і сама рэч сведчыць аб гэтым, што ўвогуле існуе тры роды даброт. Бо ўсё, што толькі можна азначыць імем "даброта", адносіцца альбо да розуму, альбо да цела, альбо да маёмасці. Платон у першай кнізе Законаў даброты розуму называе боскімі, пэўна з таго пункту гледжання, што людзі, якія карыстаюцца імі правільна і справядліва, прыпадабняюцца да самога Бога, гэтага найдасканалейшага прыкладу ўсіх дабрачыннасцей. Даброты ж, якія тычацца цела і маёмасці, Платон называе людскімі, таму што яны залежаць ад тых першых і як ніжэйшыя вышэйшым павінны ім падпарадкоўвацца і ім служыць.

Меркаванні Арыстоцеля нічым не адрозніваюцца ад платонаўскіх. Усё шчасце людское ён дзеліць на эўдэмонію — шчаслівасць, і эўтыхію — знешні дабрабыт. Эўдэмонія ахоплівае толькі ўнутраныя і духоўныя даброты, гэта значыць, спалучае ў сабе вяршыню ўсялякіх цнотаў і робіць чалавека сапраўдным уладальнікам сапраўднае шчаслівасці. Эўтыхія ж, паводле Арыстоцеля, утрымлівае адно знешнія даброты, якія датычаць цела і маёмасці. Чалавек атрымаў іх дзеля таго, каб яны, выконваючы ролю нібыта інструмента, накіроўвалі чалавека і схілялі яго да належнага і стараннага ажыццяўлення ўсякіх цнотаў.

Платон жа ў Эўтыдэме павучае, што цалкам шчаслівымі людзей робіць не толькі валоданне дабротамі, але і правільнае іх ужыванне. Аднак ніхто не можа ўжываць іх правільна, калі яго не падтрымлівае мудрасць. Але калі б нават мы пагадзіліся, што толькі мудрэц адпаведным чынам карыстаецца дабротамі, а людское шчасце палягае менавіта на правільным іх ужыванні, то — маім зданнем — і сам мудрэц не мае магчымасці карыстацца гэтымі дабротамі як належыць, калі адначасова не будзе валодаць і дарам свабоды. Калі б усе тыя супольніцтвы людскія, што мы называем дзяржавай, аб'ядналіся, каб праз агульную раду і дапамогу забяспечыць сабе поўную шчаслівасць, яны б знайшлі той адзіны і выключны сродак, які гарантуе добрае і шчаслівае жыццё: вырашылі забяспечыць у сваім грамадстве мір, гэта значыць, надзяліць кожнага правам свабоднага распараджэння ўласнай маёмасцю. Бо навошта валодаць дабротамі, калі іх нельга ўжываць? Як жа ўжываць іх правільна, калі ўвогуле бракуе магчымасці ўжывання? А таму для правільнага карыстання асабістай маёмасцю трэба мець таксама цалкам гарантаваную свабоду распараджацца ёю. Вось так поўнае шчасце людское палягае як на адпаведным, так і свабодным ужыванні даброт. Аднак для забеспячэння ў дзяржаве кожнаму гэтае свабоды, а таксама для абароны яе ад прагнасці і капрызаў злачынных людзей, трэба было знайсці нейкі сродак, які б стрымліваў у поўнай меры подласць і пагарду людскую.

З гэтай мэтай вынайдзены законы, у якіх ёсць заключаная ўсякая навука аб шляхетных абавязках і разам устаноўлена таксама кара за парушэнне закона. Так напрыклад, калі б хтосьці добраахвотна не шанаваў публічнага спакою, яго б прымусіў да гэтага страх перад пагрозай кары. Няма свабоды там, дзе ўвогуле не існуе закон, альбо дзе ён сфармуляваны так, што не толькі не стрымлівае свавольства ганебных, а хутчэй яшчэ ўзмацняе яго.

Вось зараз нарэшце можна дакладна зразумець, на чым палягае свабода, аб якой мы тут разважаем. Гэта валоданне ўсімі ўжо памянёнымі дабротамі, бяспечнае і вольнае ад страху перад беззаконнем. Відавочна, яно спалучаецца з належным і законным іх ужываннем. Бо добрасумленныя законы з усіх бакоў бароняць публічную свабоду; не дазваляюць нікому злоўжываць асабістымі дабротамі і, у той жа час, скіраваныя супраць тых, хто пераходзіць меру і гвалтуе свабоду сваю і сваіх блізкіх. Усе людзі, якія разбураюць права і добрасумленны закон, аднолькава топчуць як асабістую свабоду, гэтак і свабоду іншых людзей. Пагражаюць чужой свабодзе, калі дапускаюць беззаконне ў адносінах да цела ці маёмасці суграмадзян. Знішчаюць сваю асабістую свабоду, калі, паблажаючы сабе, дапускаюць ганебныя ўчынкі і тым самым паказваюць сябе найбольш подлымі рабамі — рабамі заганы і злачынства. Бо калі б нават існавалі брыдкія заганы, якія прыносілі шкоду толькі тым, хто іх дапускае, і не чынілі крыўды іншым, то і яны абцяжарвалі б яго кляймом ганебнае няволі. Бо сапраўдная свабода не дазваляе служыць ані людзям, ані злачынцам. "Усе людзі легкадумныя, — як кажа Цыцэрон, — усе прагныя, нарэшце ўсе яны подлыя рабы. Таму што рабства — гэта пакорлівасць знясіленага розуму, прыніжанага і пазбаўленага ўласнае рэвагі".

"Ці ж прызнаем мы вольным, — пытае Цыцэрон, — чалавека, якім кіруе жанчына, якому яна навязвае законы, дае правілы, указанні ды забароны, што ўзбрыдуць ёй у галаву, а ён, той, што аддае загады, не можа супярэчыць ні ў чым, не мае смеласці ні ў чым адмовіць? Жанчына патрабуе — ён мусіць даваць. Яна заве — ён павінен з'явіцца. Яна выганяе — ён мусіць ісці прэч. Яна пагражае — яго ахінае трывога. Па праўдзе, я перакананы ў тым, гэткі чалавек заслугоўвае не толькі назвы раба, але імя раба найбольш нікчэмнага, нават калі ён выйшаў з сям'і вельмі знакамітай". Вось так, на думку Цыцэрона, усякая жадоба, якая распальвае людскія пачуцці і штурхае чалавека то ў гэты, а то ў іншы бок, нават ні на каліва не вызваляе ад ганьбы рабства.

Аднак рэспубліка, стражніца агульнай незалежнасці, для абароны свабоды ўстанавіла толькі такія законы, якія б маглі стрымліваць і караць ганебныя злачынствы, што прыносяць шкоду іншым. Гэтак жа і мы не можам выдаваць такія законы, якія б цесна абмяжоўвалі свабоду, і адначасова дамагацца, каб людзі дзякуючы ім былі цалкам свабоднымі ад усякіх парушэнняў. Прызнаем, што кожны мае сваю дастаткова гарантаваную свабоду тады, калі людзі ў кожнай дзяржаве абмежаваныя законамі так, каб нікому не прычыняць шкоды (...)

## Раздзел V
## Якія законы патрэбны ў дзяржаве, каб забяспечыць грамадзянам сапраўдную і трывалую свабоду

З усяго таго, што выказана дагэтуль, лёгка зразумець, што сапраўднай свабодай не можа пахваліцца аніводная дзяржава, у якой жыццё грамадства не падпарадкоўвалася б пэўным нормам. Калі ж у грамадстве адсутнічаюць правілы, якія ўстанаўліваюць нормы супольнага жыцця і пагражаюць карамі за іх парушэнне, тады, без сумнення, наступае агульная страта

# ВОЛАН

свабоды, альбо слабейшыя асобы апынаюцца ў нявoлі.

Аднак амаль ва ўсім свеце заўсёды існавалі народы, якія, нягледзячы на жыццё паводле строга ўстаноўленых законаў, не маглі лічыць сябе цалкам застрахаванымі ад усякае няволі. Таму трэба таксама належным чынам высветліць, што такое моц права і даць яго дэфініцыю, каб у выніку злоўжывання гэтым тэрмінам невукамі, права, якое ўсе мудрацы называюць падмуркам свабоды, не ператварылася ў прыладу няволі. Права ж, як адзначае Цыцэрон у першай кнізе працы аб законах, прывіта прыродзе найвышэйшым розумам, які наказвае, што рабіць трэба, і забараняе тое, чаго рабіць не належыць. Альбо, як піша Цыцэрон у іншым месцы, карыстаючыся, праўда, другімі словамі, але выказваючы тую ж самую думку, "закон — гэта думка бажаства, якое дазваляе рэчы справядлівыя і забараняе несправядлівыя". З гэтым меркаваннем пагаджаецца і Дэмасфен. Ён кажа, што права з'яўляецца дарам і вынаходніцтвам багоў. Дэмасфен вучыць, што боскім натхненнем чалавечаму розуму прывіта здольнасць распазнаваць сумленнае, добрае і справядлівае; гэта, уласна, і ёсць права. Яно ва ўсіх галінах жыцця дае высакародныя і выратавальныя парады і правілы, якія ўзмацняюць бяспеку ўсяе людское супольнасці. Таму і Арыстоцель таксама патрабуе, каб законы знаходзіліся ў пагадненні з прыроджаным пачуццём справядлівасці. Бо калі законы супярэчаць прыроджаным нормам добрасумленнасці, разбураюць грамадскія сувязі, становяцца ачагом згубнага непакою, вядуць да няволі, то яны ўвогуле не заслугоўваюць імя законаў.

Бо хто ж назаве правам, а не страшным, агідным злачынствам тое, што старажытныя кіпрыёты мелі звычай нявінных дзяўчат перад уступленнем у шлюб пасылаць да публічных дамоў, альбо што ангельцы ў шлюбную ноч рабілі сваіх нявест даступнымі для ўсіх, выдаючы іх на распусту, што індусы забівалі сваіх састарэлых бацькоў і елі іхнія целы ў перакананні, што іх уласныя целы ёсць для мёртвых самай ганаровай дамавінай? Аднак гэтыя варварскія і страшныя звычаі, хаця яны і супярэчаць людскому пачуццю здаровага сэнсу, нейкім абсурдным і недарэчным чынам надзелены ганаровым імем закона. Таму ў чалавечым грамадстве належыць усталёўваць толькі такія законы, — і ім надаваць моц абавязковых, — якія вынікаюць з натуральнага пачуцця розуму, што абапіраецца на дабро і справядлівасць. Сярод жа іншых суджэнняў, што ўкаранёныя ў чалавечы розум і вынікаюць з пачуцця здаровага сэнсу, існуе відавочная і прадыктаваная сілаю прыроды забарона гвалту над чыёй-небудзь сарамлівасцю і стварэння пагрозы маёмасці альбо жыццю. На самай справе варварскі і дзікі народ гвалціў гэтыя прыроджаныя людскому розуму правілы, супрацьпастаўляючы сябе агульным нормам. І праўда, такі народ праводзіў у жыццё і ў звычаі людскія правілы, што супярэчаць агульнай думцы, але яму ніколі не ўдавалася зрабіць з іх непахіснага і вечна існуючага правіла жыцця, надаць ім значэнне закону. Ён вымушаны быў дапусціць, што гэтыя правілы выходзяць з ужытку і гінуць. Бо ўсе законы, якія супярэчаць здароваму сэнсу і розуму, будуць абуджаць пратэст да таго часу, пакуль не будуць скасаваны дзяржаўным распараджэннем, альбо пакуль незадаволены люд не адвергне іх як законы, што прыносяць крыўду і шкоду.

Такім чынам, каб забяспечыць людзям сапраўдную свабоду і спакойнае жыццё, трэба ў якасці закону ўводзіць толькі такія палажэнні, якія дыктуюцца розумам і вынікаюць з наказаў здаровага сэнсу. Закон жа, які вынікае з нязменнае прыроды, ёсць: нікому не чыніць гвалту, аддаваць кожнаму тое, што яму належыць і — як кажа Цыцэрон — "стрымлівацца ад усялякае прагнасці, бараніць уласнае ад чужога, стрымліваць думкі, вочы і рукі".

Такім чынам, у той дзяржаве, дзе жыццё чалавека абаронена ад забойства і ўсялякае крыўды, а маёмасць ад рабаўніцтва, — толькі там існуе непарушная грамадзянская супольнасць, а салодкае і прыгожае слова свабода трываецца непахісна і вечна.

## Раздзел VII
## Што такое шляхецтва і якое яго паходжанне

Як сам Арыстоцель на старонках шматлікіх сваіх твораў, гэтак і многія іншыя філосафы вызначалі шляхецтва як высакароднасць продкаў і прыстойнасць прадзедаў, якая пераходзіць на нашчадкаў як бы дзякуючы праву спадчыны. Бо калі чыесьці продкі вызначаліся выключнай дабрачыннасцю і заслугамі перад айчынай, калі яны займалі высокія пасады альбо праславіліся багаццем і сілай, то яны звычайна астаўлялі сваім нашчадкам славутыя імёны, перадавалі свой аўтарытэт, якім самі валодалі. Арыстоцель таксама сцвярджае, што прынцыповай асновай шляхецтва з'яўляецца ўзаемасувязь дзвюх рэчаў: дабрачыннасці і багацця. Аднак часта — што знаходзіць пацвярджэнне хоць бы ў вопыце — толькі багацце альбо тыя ж вартасці продкаў пры поўнай адсутнасці дабрачыннасці мелі вялікае значэнне для ўзмацнення аўтарытэту роду.

У рымлян саслоўе патрыцыяў, альбо шляхта, вялося ад бацькоў, гэтых сенатараў, абраных да ўраду за часамі Рамула. Значэнне ў грамадстве яны здабылі не дзякуючы дабрачыннасці, а толькі па прычыне атрыманага звання і занятае пасады. Бо ці можна дашукацца дабрачыннасці ў той збіраніне людзей, дзе ўвогуле не было розніцы паміж вольным і рабом, ці шукаць дабрачыннасць у тым прытулку, дзе хаваліся збеглыя нізкага і невядомага роду? Аднак незалежна ад таго, чым здабываюць людзі выключныя гонар і славу: дабрачыннасцю бацькоў ці багаццем, альбо і адным, і другім разам, усе называюць шляхецтва гэтымі слаўнымі імёнамі, якія пераходзяць ад бацькоў да сыноў. Але зараз мы вядзем размову не аб тым шляхецтве, якое кожны можа здабыць дзякуючы звычаям і дабрачыннасці, а думаем аб тым звычайным шляхецтве, падставай для якога з'яўляецца аўтарытэт продкаў. Менавіта гэтае шляхецтва сярод іншых выгод валодае, на думку многіх, і тым зусім не малым прывілеем, што існуючыя ў продкаў зародкі дабрачыннасцей аказваюцца прывітымі ў розуме нашчадкаў. Такім чынам, сыны павінны цалкам прыпадабняцца да сваіх бацькоў альбо дзядоў. Вось чаму так часта і ў вуснах многіх чуваць гэтыя слынныя словы паэта:

*Мужны родзіць мужнага ж.*
*Быкі і жарабцы*
*Наследуюць сваё высакародства*
*ад бацькоў,*
*Ад арла, што з асалодай*
*хлебча кроў сваіх ахвяр,*
*Не можа нарадзіцца галубіца.*

Аднак таму, што шляхецтва не заўсёды выводзіцца з дабрачыннасці, а часта мае падставай адно толькі багацце альбо занятую пасаду, то дарэмнымі з'яўляюцца намаганні гэткай складанай з'яве надаць нейкую дакладна акрэсленую форму. Здараецца, што камусьці ўласцівае шляхецтва абапіраецца толькі на дабрачыннасць продкаў і бездакорнасць жыцця. Аднак нельга лічыць, што такія ж рысы заўсёды аказваюцца прывітыя розуму нашчадкаў. Не варта думаць, што без выхавання, без працы, без аніякіх высілкаў, дзякуючы адной толькі схільнасці прыроды, можна дамагчыся ўсяго, што зрабіла прадзедаў высакароднымі і славутымі. Я зусім не адмаўляю таго, што высакародныя нараджаюцца ад высакародных і што некаторыя атрымалі большыя зародкі дабрачыннасці і з меншае працы даюць большы плён. Аднак вельмі мала падстаў для таго, каб увогуле патрабаваць далейшага абвяржэння тэзы, што над усімі вісіць цяжар нейкага закону неабходнасці і што ўсе нараджаюцца ў адпаведнасці з існуючым вечна і ўстаноўленым парадкам прыроды. Менавіта тут відаць нечуваная дабрыня Бога, які, не звяртаючы ўвагі на асоб, шчодра пасылае каму толькі захоча высакародныя якасці душы і розуму. І часта сыны бацькоў нізкага роду бываюць надзеленыя такімі вялікімі талентамі, што дзякуючы сваёй уласнай дабрачыннасці становяцца вельмі слаўнымі і знакамітымі. А часта дзеецца і адваротнае: нашчадкі славутых продкаў выраджаюцца да такой ступені, што сіляцца дабрачыннасці сваіх бацькоў зацьміць уласнымі злачынствамі. Агіднымі ўчынкамі пэцкаць жыццё — вось іх асаблівае задавальненне. І таму, здаецца, вялікаю праўдай гучыць сцвярджэнне патрыярха: "Папраўдзе, шляхетнымі не гэтак нараджаюцца, колькі становяцца". І каб выпадкова не здалося, што зухаватасць з'яўляецца каштоўнасцю спадчыннай, ён дадае: "Без ахвоты кажу гэта, але ж так паказвае самая сутнасць. Рэдка здараецца знакаміты сын ад знакамітага бацькі".

Такой зменлівасці лёсу нельга прыпісаць да нейкай акрэсленай эпохі. Той жа найстарэйшы паэт, славуты Гамер аплаквае тое ж самае няшчасце, калі мовіць:

*Вельмі мала сыноў, што ўдаюцца*
*ў бацькоў сваіх зухаватых,*
*Горшых болей намнога, і мала хто*
*бацьку перавышае.*

Сапраўды, не трэба далёка шукаць прыклады, што пацвярджаюць гэта. Упэўнішся, як гэта часта бывае, калі толькі звернеш сваю ўвагу. Як цяжка сынам зраўняцца ў дабрачыннасці са сваімі продкамі! Шмат ведалі мы людзей, праслаўленых сваёй рыцарскай мужнасцю, і пераканаліся, што іх сыны альбо ўнукі выключна пустыя, лянівыя, наогул не здатныя да вайсковага рамяства. І зноў жа, людзі, якім памяркоўнасць і добрасумленнасць прынеслі вялікую славу, часта (і каб жа не заўсёды!) астаўляюць сыноў легкадумных, пагружаных у празмернасць і распусту. Падобна гэтаму нараджаюцца дзеці ад бацькоў разумных — не мудрыя, ад вучоных — невукі, ад справядлівых і літасцівых — лютыя тыраны. Шмат разоў даведваліся мы і з кніг, і з вопыту аб гэтым.

Мінаючы сучасныя выпадкі, затрымаемся на хвіліначку перад дзеямі колішнімі. Каго не здзіўляе правадыр яўрэяў Маісей, хто не славіць яго здольнасць кіраваць, яго непахісны і энергічны розум, справядлівасць і набажэнства? Аднак сыноў Маісеевых Эліезара і Гірсама рэдка ўспамінае Святое Пісанне. Гэта даказвае, што яны не здабылі бацькоўскае дабрачыннасці. Ды і сам Маісей (хаць закон і дазваляў гэта) ніводнага з іх не прызначыў сваім спадкаемцам. Ён выключыў іх са справавання пасады, якую сам займаў, калі зразумеў, што гэта не па іх сіле. А як шмат з прычыны ганебных, брыдкіх паводзінаў сыноў нацярпеўся цар Давід — праслаўлены ўзор выключных дабрачыннасцей? Выгнаны праз сына на край царства, пазбаўлены амаль усёй маёмасці, падвергнуты пагрозе страты жыцця, толькі дзякуючы смерці сына змог спакойна панаваць у сваім царстве. Цар Іосіф, уладар, што заслугоўвае пахвалы за той запал, з якім ён аднаўляў сапраўдную веру, меў сына Манасія, які хутчэй быў наследнікам бацькоўскага трону, чым ягоных дабрачыннасцей. Вось ён і праславіўся як завадатар пашырэння паганскага культу і тыранскай трактоўкай святых боскіх прарокаў. Ён жа асудзіў на выключна лютую жахлівую смерць прарока Ісайю.

Калі ж прыпомніць факты з паганскіх дзеяў, то ў гісторыі знойдзем шмат такіх прыкладаў. Назавем колькі з іх. Дык вось, дабрачыннасці рымскага цэзара, філосафа Марка Антонія набіраюць яшчэ большага бляску ў параўнанні з яго брыдкім сынам, наследнікам цэзарскае ўлады. Як і Германік, уладар асабліва праслаўлены праз сваю мудрасць і бездакорнасць, каго аставіў пасля сябе? Сына Калігулу — увасабленне ўсякае згубы, а не істоты людскай! Праз сваё ляніўства, разбэшчанасць і лютасць ён быў так далёка ад падабенства да бацькі, што правільна будзе сказаць, быццам ён не сын, народжаны ад таго слаўнага чалавека, а нашчадак нейкага дзікага звера. А цэзар Аўгуст, выдатны прыклад найвышэйшай дабрачыннасці, так цярпеў з ганьбы сваёй дачкі ды ўнучкі,, што доўга паўтараў гэты славуты верш Гамера:

*Лепш бы я не жаніўся і памёр бяздзетным.*

Сапраўды, вельмі рэдка лепшыя нараджаюцца ад лепшых, а яшчэ радзей патомкі не аддаляюцца выраджэннем ад дабрачыннасцей сваіх продкаў. Няма, такім чынам, моцнай і непарушнай падставы для сцверджанняў людзей, якія думаюць, што разам са шляхецтвам яны атрымліваюць ад продкаў і дабрачыннасці, быццам нейкае спадчыннае дабро.

Як мы ўжо выказваліся, істотна больш зародкаў дабрачыннасцей прывіта ў душы некаторых людзей, але абудзіць іх да жыцця можна толькі вялікімі намаганнямі, стараннасцю і працай. Лянівы ж, як урадлівы, але занядбаны загон, замест зерня дае толькі пустазелле. Таму што ў розуме чалавечым хаваецца нешта падобнае на іскарку, ад якое — калі падзьмеш і дроў падкладзеш — разгарыцца вялікае полымя. Калі ж перастанеш старацца і спыніш свае намаганні, то лёгка можаш зусім затушыць іскарку і тады не будзе аніякага полымя. Вось таму, здаецца, вельмі ясна і мудра напісаў паэт Гесіёд, што ад дабрачыннасці багі аддзялілі нас цяжкай працай. Яны змясцілі яе на высокай і вельмі крутой гары, дарога да якое знясільваючая і цяжкая. Няхай ніхто не марыць пра тое, што давядзе яго туды непаваротлівасць, бяздзейнасць альбо толькі прырода без працы і спякоты. Тым больш высмейваць і справядліва пагарджаць належыць такімі цалкам фальшывымі перакананнямі пэўных людзей, якія, атрымаўшы шляхецтва ў спадчыну ад бацькоў, выхваляюцца ім так, быццам толькі яны маюць у сваім уладанні сапраўдную дабрачыннасць, а іншымі — калі б нават яны не ведаю як перавышалі іх дабрачыннасцю — пагарджаюць. Аднак глупцы замест таго, каб ісці за жывой істотай, ганяюцца за ценем і, не авалодаўшы рэччу, кормяца яе марнай знешнасцю.

Яшчэ большае непаразуменне абуджае факт, што гэта памылка не толькі нашых часоў альбо нейкай акрэсленай эпохі. Нават за часамі старажытнымі панавала гэтае пустое перакананне, ды заўжды тапілі яго ў поўных мудрасці словах дзейныя і мудрыя мужы. Калі, напрыклад, Салюсцый выхваляўся даўнім шляхецтвам роду і, зневажаючы, указваў Цыцэрону на яго нядаўна набытае шляхецтва, Цыцэрон адказаў так: "Я сваіх продкаў акружыў ззяннем маёй уласнай дабрачыннасці. Хоць да гэтага яны былі невядомыя, але ад мяне бярэ пачатак памяць аб іх. Тваё ж ганебнае жыццё кінула вялікі цень на тваіх дзядоў. Калі нават яны былі выбітнымі грамадзянамі, то відавочна, што іх імёны забыліся". Калі шляхетна народжаныя здзекаваліся з Марыя, папракаючы яго нізкім нараджэннем, ён, са свайго боку, указваў ім на іх подласць, разбіваў іх фальшывыя ўяўленні, што дабрачыннасць — гэта неразлучная сяброўка шляхецтва; усё, што толькі можна, гаварыў ён, далі ім іх бацькі: багацце, гербы, славутую памяць пра сябе. Толькі аднаго яны не маглі ім запавядаць — дабрачыннасці. Бо толькі яе аднае нельга ахвяраваць, яе аднае нельга атрымаць у падарунак. Хто імкнецца да славы, якую дае дабрачыннасць, мусіць цалкам вызваліцца ад ляніўства, павінен практыкавацца ў працы. Вось чаму Марый казаў далей: "У імя добрасумленнасці не магу паказаць масак славутых продкаў, падлічыць маіх дзядоў трыумфаў і кансулатаў. Аднак жа калі трэба, то я пакажу дзіды, харугвы, узнагароды і іншыя вайсковыя здабыткі, надта мне блізкія. Вось мае маскі, вось маё высакародства. Я не атрымаў гэтага, як іншыя, у спадчыну, а здабыў, падвяргаючы сябе поўнай цяжкасцей небяспецы". Бо дабрачыннасць патрабуе вялікай стойкасці ў знясенні цяжкасцей. Яе не атрымліваюць так, як спадчыну, а толькі здабываюць добрымі ўчынкамі. Сведчыць аб гэтым і паэт, калі кажа:

*Хто прагне ў рыцарскіх турнірах*
*Дасягнуць жаданай мэты,*
*Той змоладу практыкаваўся,*
*Голадам цярпеў і мёрзнуў,*
*Цяжкасцей той знёс нямала,*
*Грэбаваў вінам, уцех цураўся.*

А як шляхецтва зусім не з'яўляецца крыніцай дабрачыннасці і як мы не атрымліваем яе з прыроды, то належыць пашукаць іншых выгод і карысці, якія вынікаюць з шляхецтва. У сапраўднасці існуе адзін, амаль ці не выключны, не малое вагі і не для пагарды прывілей. Усе народжаныя ў славутых сем'ях з'яўляюцца сярод людзей нібы з нейкім святлом альбо факелам запаленым. Дзякуючы гэтаму факелу аніводнае іх высакароднае і дабрачыннае дзеянне не застаецца невядомым, а дасягае адразу свядомасці ўсіх. Гэтага прывілею пазбаўлены людзі, якія вядуць свой род ад нізкай і невядомай сям'і. Не могуць яны дасягнуць славы інакш, як толькі вялікай працай захоўваць дабрачыннасці, праз велізарныя намаганні духу і цела. Да таго ж, здабыўшы славу, яны вымушаны зносіць вельмі вялікую нянавісць людзей, падвяргаючыся паклёпу і глумленню. Я мог бы тут прывесці шмат прыкладаў са старажытнасці, але ж гэта рэчы, вядомыя з вопыту амаль штодзённага жыцця. Не сутыкаюцца з усімі гэтымі перашкодамі тыя, хто атрымаў славу ад бацькоў і дзядоў сваіх, ніхто іх не папракае тым, што ідуць яны дарогай дабрачыннасці, бо дарога гэтая выдаецца як іх уласнасць. "Мы ўсе, добрыя грамадзяне, — кажа Цыцэрон, — заўсёды садзейнічаем шляхце, бо карысна, каб у дзяржаве існавалі людзі шляхетнага роду, годныя сваіх продкаў, а таксама таму, што для нас мае значэнне памяць аб людзях славутых, з вялікімі заслугамі перад Айчынай, нават ужо пасля іх смерці".

Аднак калі б хтосьці не аказаўся падобны на продкаў сваёй дабрачыннасцю, то яго ганьба будзе тым больш відавочная, чым больш надзеі ўскладалі на яго з нагоды славы ягоных продкаў. Значыць, калі цябе, чалавека, схільнага да ўпадку, апануе амбіцыя, схільнасць да распусты, калі лютасць і відавочная несправядлівасць твая знясславіць цябе, тады, паводле Ювенала, "ужо само па сабе шляхецтва тваіх продкаў выступіць супраць цябе і яснай паходняй асвеціць тваю ганьбу". Вось чаму здаецца, што гэтае шляхецтва продкаў абцяжарвае спадкаемцаў нейкім законам, ці хутчэй неабходнасцю, якая не дазваляе ім адступаць ад дабрачыннасці дзядоў. Паводле сведчання Цыцэрона, людзі, слаўныя не гэтак родам, як сваімі ўчынкамі, справядліва павінны быць ва ўсіх у павазе.

**Пераклад з польскае мовы Рыгора ГРУДНІЦКАГА.**

*Пераклад зроблены з кнігі: Filozofia i myśl spolezna XVI wieku. Warszawa, PWN, 1978.*

марах, у палёце любоўнай страсці можна падняцца ў неба і, абняўшыся, лунаць у паветры.

Дырыжор, скрыпач прадстаўлены з галавой, што адасоблена ад шыі. Яны — ў экстазе, іхнія думкі — у аблоках. Маладая пара пераможна лунае па-над Віцебскам — у іхніх душах выраслі крылы.

У карціне "Дзень нараджэння" (1915), у год шлюбу Шагала і Бэлы, абодва яны лётаюць па пакоі. Узляцець у чатырох сценах асабліва няма куды, і постаць мастака, які лунае над Бэлай, ненатуральна выгнулася, каб не зачапіцца галавою аб



столь. Гэта яшчэ, па праўдзе, не палёт, а прадчуванне палёту, так бы мовіць, шчаслівы перадстартавы стан.

Шагалу споўнілася 30, а крытыкі ўжо дзялілі ягоную творчасць на тры перыяды: віцебскі, парыжскі ды зноў віцебскі. Многія мастакі пішуць любыя сэрцы мясціны. Веніцыянаў разгледзеў прыгажосць сяла Сафонкава ля Вышняга Валачка, Іванаў маляваў Рым, Ван Гог няўрымсліва жывапісаў Арль, Шагал усё амаль стогадовае жыццё памятаў свет свайго правінцыйнага дзяцінства, прадмесці Віцебска, які быў для яго адразу явай і мрояй.

Шагал — пясняр беларускага правінцыйнага мястэчка, шырокай вуліцы, супольнага патрыярхальнага жыцця, а не дома, не пакоя з чатырма сценамі. Вось чаму ён ніколі не мог стаць сапраўдным мастаком Парыжскай школы. Нават ягоныя інтэр'еры —не замкнёная прастора, як у Мадзільяні. Калі гэта парыжскі пакой, то ў ім ёсць акно, а ў вакне — кавалачак... Віцебска. А ў Віцебскім інтэр'еры скрозь ваконную шыбу бачны іншы раз парыжскі пейзаж.

Перад тым як стаць мастаком з планетарнай прасторы і праспяваць радасць свабоднага палёту ў бязважкасці, Шагал выглянуў спачатку з вакна бацькоўскай хаты на віцебскую вуліцу і назаўсёды палюбіў яе.

У самыя першыя месяцы жыцця ў паслярэвалюцыйным Віцебску Шагал абмяжоўваўся працай за мальбертам. У адным з лістоў 12 сакавіка 1918 г. ён піша: "Цяпер я тут. Гэта мой горад і мая магіла... Тут па вечарах і начах як "тытун" раскрываюся я... працую". Але адначасна з напружанай творчасцю, "начным" і "дзённым", Шагал прыглядаецца да мастацкага жыцця горада і неўзабаве робіцца яе лідэрам. Увосень 1918 года, прыхапіўшы з сабой новыя палотны, ён едзе ў Маскву і наведвае наркама асветы А.Луначарскага, былога знаёмца па Парыжы. Вось як апісвае гэтую сустрэчу Шагал: "У першы год рэвалюцыі я заснаваў у Віцебску мастацкую школу і стаўся яе дырэктарам. Па справах школы мяне неяк прыняў Луначарскі. Я чуў, што ён марксіст, але мае веды марксізма абмяжоўваліся тым, што я ведаў, што Маркс быў гэбраем, насіў вялікую белую бараду, і што мой жывапіс неяк з марксізмам не злучаўся. Я адразу сказаў Луначарскаму: "Галоўнае, не пытайце мяне, чаму я пішу зялёным альбо сінім і чаму ў каровінай вантробе бачна цяля і гэтак далей. Зрэшты, я вельмі хацеў бы, каб Маркс, калі ён гэтакі мудры, уваскрос і ўсё растлумачыў..." Луначарскі глядзеў на мяне ашаломлена. Ён, напэўна, думаў: "Чаму карова зялёная і чаму конь адлятае ў неба? Якое ўсё гэта мае дачыненне да Маркса і Леніна?" Але ён маўчаў. Ён быў недурным чалавекам..."

Такім чынам, Шагал вярнуўся ў Віцебск надзелены — дзякуючы наркому асветы — высокімі камісарскімі паўнамоцтвамі. Яму, "упаўнаважанаму калегіі па справах мастацтваў Віцебскай губерні", надавалася "права арганізацыі мастацкіх школ, музеяў, выставаў, лекцый і спавешчанняў па мастацтве і ўсялякіх іншых мастацкіх мерапрыемстваў у межах горада Віцебска і ўсёй Віцебскай губерні".

Мандат даваў Шагалу немалыя арганізацыйныя правы, і ён імі шырока карыстаўся: стварыў музей, куды былі накіраваны з розных гарадоў карціны першакласных мастакоў, заснаваў народную мастацкую школу (вучэльню), якая потым сталася Мастацка-практычным інстытутам. На пасадзе дырэктара ён заставаўся да ліпеня 1920 г., потым яго змяніла В.Ермалаева. Шагал быў упэўнены ў тым, што рэвалюцыйныя перамены маюць вялікае значэнне і цудоўныя перспектывы. "... Пераўтвораны працоўны люд, — марыў мастак, — наблізіцца да таго высокага ўздыму культуры і мастацтва, які ў свой час перажывалі асобныя народы і аб якім нам пакуль што застаецца толькі марыць."

Шагал быў упэўнены, што "мастацтва толькі тады можа мець назву Мастацтва з вялікай літары, калі яно рэвалюцыйнае па сваёй сутнасці". Гэтую рэвалюцыйную сутнасць мастацтва ён найбольш адкрыта і люта выявіў у дзейнасці па афармленні ў Віцебску рэвалюцыйных святаў, і перадусім 7 лістапада 1918 г. Шагал узгадваў, што тады "губерня Віцебская была аздоблена каля 450 вялікімі плакатамі, шматлікімі сцягамі для рабочых арганізацый, трыбунамі і аркамі". Аднак да сённяшняга дня захаваліся толькі тры шагалаўскія эскізы афармлення горада: "Наперад" — дзе юнак, раскінуўшы рукі, нібыта крылы, імчыцца над зямлёй, а ўнізе бачны Віцебск; "Вайна палацам": мужык у падпярэзанай рускай кашулі ўздымае дом з калонамі; на трэцім эскізе — вершнік імчыцца ў нябёсах над горадам і трубіць аб перамозе.

Такая ўсеагульнасць успрыняцця рэвалюцыйных падзеяў і знітаваных з ёй асацыяцый уласцівая ўсёй творчасці Шагала ў паслякастрычніцкія гады. У станковых рэчах гэтая якасць праступае яшчэ больш выразна і ў зусім нечаканых формах. У іх трыумфуе цуд, усе карціны так ці інакш прылучаны да нейкіх вышніх сілаў, якія ўрываюцца ў будзёную хаду жыцця і рашуча пераствараюць яе.

Менавіта ў 1917-м Шагал і Бэла "ўзляцелі" ў неба, і свет прыйшоў, на думку мастака, у гармонію. Скончыўся час напружанасці, дурыкаў, нялёгкіх прадчуванняў. Прыйшоў палёт як здзейсненая утопія Шагала, адна з прыгожых утопій часу.

У трыпціху "Шпацыр", "Двайны партрэт" і "Над горадам" палёт герояў ператвараецца ў радасць рэалізаванай ідэі. Шагалаўская карціна свету ў гады рэвалюцыі дабудоўваецца, выцягваючыся ўверх, аддзяляючы зямлю ад неба гарызантальнай рысай. Палёты ў трыпціху радасныя і бестурботныя. Маладыя закаханыя ўзносяцца ў неба, каб паляцець і зноў апусціцца на дахі свайго горада. У "Шпацыры" аслупянелы ад шчасця мастак, з усмешкай ва ўвесь рот стаіць на даху дома і трымае за руку лунаючую жонку, якая, нібыта сцяг, трапеча ў паветры — на фоне Віцебска. А ў "Двайным партрэце" ўсё наадварот. Шагал у вячэрнім гарнітуры і пантофлях сядзіць на аголеных плячах жонкі, яна ж у сваёй вячэрняй дэкальтаванай сукенцы забралася так высока, што Віцебск рассцілаецца ля яе ног, а Шагал, з келіхам у руцэ, цягнецца да анёлаў.

Іншымі словамі, палёт для герояў — такі ж натуральны стан, як зямное паўсядзённае жыццё ў атачэнні хатняй жывёлы і мастацкага рыштунку.

Магчыма, менавіта сюжэтныя матывы рамантычных палётаў і нарадзілі чарадзейны сіні колер Шагала. Колер паветранага акіяна, па якім чалавек свабодна плыве... і не толькі чалавек. У 1918 годзе ён аздобіў свой горад лётаючымі каровамі, напісанымі на кумачовым фоне — іншай тканіны ў Віцебску не знайшлося. Цікаўнасць да вуліцы, да людзей на вуліцы, да жывога свету ён захавае назаўсёды, у апошні раз паказаўшы яе ў сваіх паэтычных фантазіях на тэмы Старога запавету: ягоныя біблейскія масавыя сцэны — водгукі віцебскіх рэвалюцыйных святкаванняў, якія афармлялі ў тыя гады Шагал, Малевіч і іхнія вучні.

Пасля таго як мастак паехаў з Віцебска і пакінуў адчуваць "рэвалюцыйны ўздым", ягоныя палёты сталіся іншымі. Яны не страцілі лірыкі, але страцілі пераможныя трыумфальныя гучанні.

У 20-я гады Шагал жыве на працэнты з віцебскіх уражанняў. Але з гэтых цудоўных па каларыце парыжскіх палётаў вакол ды каля Эйфелевай вежы пачаўся "адпачываючы", хоць і па-ранейшаму святочны Шагал. Тут ёсць і супакоенасць мастака, які пераводзіць дух пасля рэвалюцыйных віцебскіх узрушэнняў, і стоеная разгубленасць. Але гэта будзе потым. Як будуць потым і іншыя "віцебскія" сюжэты 30 — 40-х гадоў, напоўненыя тугой і трывогай за радзіму. То ён упісвае сябе і Бэлу ў заснежаны і апустошаны віцебскі пейзаж; то малюе Бэлу ў шлюбным строі і сябе: яны абняліся, спалохана прыціснуліся адзін да аднаго пасярод бязмоўнай віцебскай вуліцы, асветленай жоўтым месяцам і пакаёвай газавай лямпай; лямпа пад абажурам падвешана да неба, а не да столі. Сілуэт чалавека, што стаіць на ганку цёмнага дома, узмацняе пустынны выгляд халоднай вуліцы. Крыж на званіцы нахіліўся і, зняможаны, вось-вось разваліцца. Прысадзістыя хаты цесняцца, шукаюць — як на карцінах Суціна —абароны адна ў адной.

Вобраз Віцебска назаўжды застаўся ў творчасці Шагала. Пасля вайны ён піша мірны горад свайго дзяцінства. Цвёрда ведаючы, што яго, таго горада, больш няма. Вяртаючы яго з небыцця, ён працягвае яму жыццё зноў ды зноў. І гэта больш, чым проста настальгія.

"Калі ў 1922 годзе я апынуўся за мяжой, — пісаў Шагал, — дык адчуваў сябе дрэвам з выдранымі каранямі, якое вісіць у паветры... Я цярпеў ад цяжкіх пакутаў. Я выжыў і нават — калі параўнаць мяне з дрэвам — не пакінуў расці толькі таму, што ніколі не парываў духоўнай лучнасці з радзімай."

Ці не таму чарадзейны свет шагалаўскіх фантазій і гульняў, арганічна засвоены з маленства і выпакутаваны на чужыне, так заваёўвае ўсялякага, хто ўваходзіць у яго, у гэты свет? Жыццё цудоўнае, Бог жартуе. Ён смяецца і весяліцца. Вось гэта азначае шагалаўская творчасць віцебскага перыяду. Не больш, але і не менш. Таму што свет мастака нібыта адпачатку хаваў у сабе неабходнасць палёту, і Шагал па боскай



падказцы маляваў толькі шчасце і прыгажосць.

Так, і ён таксама жартуе. Ён мог бы сказаць аб сабе словамі Францішка Асізскага: "Я меністрэль Бога", альбо, па іншай транскрыпцыі — Божы блазан. Бог забаўляецца, калі бачыць скрыпача на даху. Усміхаецца лунаючым у ружовым небе закаханым. Рагоча над нецярплівай сямейнай парай, якая скача па пакоі над чырвонай падлогай. Людзі, каровы, цяляты, пеўні, козы, закаханыя, рыбы, вослікі з вялізнымі вачыма — усе аднолькава добрыя. Лётаць... Так, многае ў Шагала адбываецца ў небе. Ёсць старажытнае паняцце неба, дзе плоць лягчэй за паветра. Паняцце нябеснай цвердзі.

Неба ў Шагала прысутнічае і там, дзе дзеянне адбываецца на зямлі. Бо неба гэта не толькі тое, што ў кожнага над галавой. Вось чаму ягоныя персанажы ўсе глядзяць унутр сябе. У свой мікракосм. І ірэальнае вакол робіцца рэальным. Фантастычным і рэальным, як у фільмах Філіні ці Бунюэля. Вось прама на віцебскай вуліцы ляжыць нябожчык — шэсць свечак гараць вакол яго. І агеньчыкі нейкія вясёлыя, патрэскваючыя. А на даху чалавек у кацялку іграе на скрыпцы. А потым сюжэт пераходзіць на іншую карціну. А на ёй намаляваны цвінтар, брамы якога ўпрыгожаны старажытнымі пісьмёнамі. І вензелі такія прыгожыя, нібыта адсюль і пачынаецца шлях не з жыцця ў смерць, а наадварот.

Можна меркаваць, ўсё, што Шагал зрабіў у мастацтве, было народжана любоўю — да пацёртых часам дамоў і цвінтарных надмагілляў роднага Віцебска, да яго бясконцых шэрых платоў, да пеўняў, што шпацыруюць па ягоных вулках, да барадатага музыкі, які ўскараскаўся, як калісьці дзед мастака, на дах са сваёй мройнай скрыпкай, да задуменных кароваў, коз і коняў ягонага дзяцінства, да старых жабракоў, падобных да старадаўніх прарокаў, і да біблейскіх прарокаў, якія нагадваюць віцебскіх старых, да Бэлы, якую ён усслаўляе, як Саламон сваю Суламіфь, да неба, у якім ён столькі год лётаў з каханай жонкай, да тэатра, які ён любіў гэтак сама, як і вулічныя віцебскія святы, да музыкаў, паэтаў і акрабатаў, бо яны ўмеюць губляць галаву ў самазабыўнай творчасці, да палымянага рэвалюцыйнага аратара, што стаіць перад вулічным натоўпам на стале: ён робіць, як гімнаст, стойку на адной руцэ, а другой указвае шлях да светлай будучыні, гатовы перакуліць увесь свет...

Але больш за ўсё на свеце ён любіў свой Віцебск і неба над Віцебскам.

За 5 год да смерці Марк Захаравіч пісаў: "Так, я заўсёды ўзгадваю свой горад, і ён амаль на ўсіх маіх карцінах... Я працягваю працаваць і пры гэтым працягваю любіць усё, што ў маёй памяці і душы".

За 3 гады да смерці ў 1982 годзе: "Я як заўсёды працую — як жа інакш? Але сяджу ў Сэн-Поле і амаль не выязджаю. Але мая радзіма — заўсёды на маіх карцінах".

Гэта была нейкая непрытомная любоў, нейкае насланнё, ад якога ён не мог пазбыцца да апошніх сваіх дзён. Ды і не спрабаваў гэтага зрабіць. Магчыма, так сумавалі па сваёй радзіме Бунін і Набокаў, трызніўшыя сваёй вёскай і сваімі шляхецкімі гнёздамі. Дантэ — па Фларэнцыі, Багдановіч — па Беларусі...

Шагал: "Ужо даўно, мой любімы горад, я цябе не бачыў, не чуў, не размаўляў з тваімі аблокамі і не абапіраўся на твае платы.

Як сумны вандроўнік — я толькі нёс усе гады твой подых на маіх карцінах. І так з табой размаўляў, і быццам ува сне цябе бачыў.

Мой дарагі, ты не спытаўся з болем, чаму, дзеля чаго я сышоў ад цябе шмат год таму".

Так, нас ужо не здзіўляе зялёны твар віцебскага музыкі на даху альбо жэрабя, якое ў нас навідавоку ляжыць у вантробе кабылы, альбо праставалосая баба, што ляціць па небе з падойнікам у руцэ да сваёй чырвонай каровы, якая залезла на страху ў той час, як галава ў ашаломленай бабы нясецца ў паветры сама па сабе. Здзіўляе вось што. Правінцыйны віцебскі побыт набывае ў Шагала нейкі таямнічы, амаль містычны сэнс. Найпрасцейшы беларускі пейзаж з шэрых платоў і нахіленых дамкоў, найзвычайнейшыя сцэны, сямейныя і побытавыя абрады ("Нараджэнне", "Вяселле", "Пахаванні", "Суботы") поўныя натуралістычных дэталяў, выклікаюць у нас трапяткое, амаль рэлігійнае адчуванне. На што нават А.Бенуа, які люта адмаўляў мастацтва Шагала, пісаў: "У мастацтве Шагала закладзены нейкія таямнічыя бесы, нейкае чарадзейства, якое, нібыта гашыш, уздзейнічае не толькі паўз свядомасць, але і насуперак яму".

Не толькі Шагал — зачараваны вандроўнік, але зачараваны і сам віцебскі свет, дакладней заварожаны, як хутар блізу Дзіканькі маладога Гогаля. Віцебск Шагала — горад, які руплівa і з годнасцю захоўвае сваю містычную таямніцу.

Марознай зімой 1973 года Шагал прыехаў у Маскву. Яго сустракалі з пашанай. У нумары гатэля, заваленым кошыкамі з кветкамі, маэстра заўважыў сціплы букецік высокіх васількоў. І разрыдаўся: то быў колер віцебскага неба. На ягонай выставе ў Маскве Шагала чакаў трыумф, яго паказвалі па тэлевізіі, яго з захапленнем вітала студэнцкая аўдыторыя. А ён сумаваў па Віцебску. Яму прапанавалі з'ездзіць туды, але Шагал адмовіўся: "Я бязмежна люблю свой родны Віцебск — не проста таму, што я там нарадзіўся, — казаў мастак, — але перадусім за тое, што там я на ўсё жыццё набыў колер свайго мастацтва... Я пасля доўгіх ваганняў адмовіўся зараз ехаць у Віцебск, хаця ўзгадваю аб ім усё жыццё. Таму і адмовіўся, што ўзгадваю. Бо там, напэўна, я ўбачыў бы іншую абстаноўку, чым тая, якую я памятаю, іншае жыццё. Гэта было б для мяне цяжкім ударам. Як цяжка назаўсёды развітвацца са сваім мінулым!"

Дачка Шагала Іда пісала, што ў свае апошнія дні бацьку часам здавалася, што ён вярнуўся ў родны горад, што жыве там. Бачыў перад сабой то "Скрыпача", то "Разносчыка газет", за спінай у таго ў халаднаватай імгле стылі віцебскія званіцы.

Марк Шагал памёр увечары 28 сакавіка 1985 года. Яго пахавалі 1 красавіка на павернутым да мора цвінтары горада Сэн-Поль-дэ-Ванс, у 20 км ад Ніцы. Неба ў гэты дзень было блакітным, як і на ягоных віцебскіх палотнах.

**Барыс КРЭПАК.**

1. Аўтапартрэт. 1914.
2. Ружовыя каханкі. 1914.
3. Віцебск. Аптэка. 1914.
4. Акно на лецішчы. 1915.

# ШТО КРАЙ — ТО ЗВЫЧАЙ, ШТО СТАРАНА — ТО НАВІНА



**ПРАДСТАЎЛЯЕМ УДЗЕЛЬНІКАЎ МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ФАЛЬКЛОРУ**

## Два ансамблі — агульны лёс

Наўрад ці будзе перабольшаннем сказаць, што зводны танцавальны ансамбль "Меркулавіцкія вячоркі" і "Чачэрскі гармонік" з'яўляюцца зараз адным з найбольш яркіх і арыгінальных аматарскіх фальклорных калектываў на Беларусі. Не так ужо часта ў мастацкай практыцы аб'яднанне двух зусім самастойных калектываў завяршаецца стварэннем новага, у якім мастацкія вартасці кожнага не толькі арганічна дапаўняюць адзін аднаго, а і пачынаюць высвечвацца больш ярка. У сваёй новай якасці ансамбль спалучае многія адметныя рысы аўтэнтычнага гурта і калектыву арганізаванай мастацкай самадзейнасці. Ад аўтэнтыкі ідзе перш за ўсё разняволенасць, натуральнасць паводзін на сцэне, калі танцоры, музыкі і спевакі нібыта забываюць пра гледача і скачуць, іграюць як бы "для сябе", таму, што так просіць душа. І ў той жа час калектыву ўласціва добрае адчуванне сцэны і зусім прафесійны тэмпа-рытм сцэнічнага дзеяння, што з'яўляецца вынікам умелага кіраўніцтва ансамблем.

Адметнасць і вельмі жывая, яркая фарба калектыву — юнацкі танцавальны гурт. Гэта, на жаль, пакуль што вельмі рэдкі выпадак у практыцы калектываў мастацкай самадзейнасці, калі дзеці, падлеткі, юнакі і дзяўчаты танцуюць не пастановачныя, а бытавыя танцы ва ўсёй прыгажосці "неапрацаванай" натуральнай пластыкі. Адсюль і жывая харэаграфічная інтанацыя з уласцівым менавіта для Чачэршчыны "гарызантальным" нібыта сцелючымся накірункам рухаў і імправізацыйным характарам пастаў рук.

Усе ўдзельнікі гурта — вучні Меркулавіцкай сярэдняй школы (1 — 10 класы), і што асабліва важна адзначыць, іх "калегамі" па мастацтву і музычным кіраўніком з'яўляецца дырэктар гэтай школы Любоў Галубіцкая.

У рэпертуары ансамбля — беларускія народныя танцы, песні, інструментальная музыка. Танцы і інструментальная музыка раскрываюць фальклорную традыцыю чачэрскай зямлі; рэпертуар пеўчай групы складаюць песні тамтэйшыя і з іншых мясцін Беларусі, у тым ліку песні перасяленцаў з Нараўлянскага раёна, якія таксама ўдзельнічаюць у ансамблі.

У калектыве шмат сапраўды таленавітых людзей. Чаго варты адзін толькі Іван Буракоў, выдатны камедыйны і імправізацыйны дар якога так бліскуча раскрываецца ў танцы з прыпеўкамі "Барыня".

Абодва калектывы шмат канцэртуюць і паасобку, і разам. Іх добра ведаюць не толькі ў сваім раёне, але і ў іншых мясцінах Гомельшчыны. Шчырымі, гарачымі апладысментамі сустракалі іх гледачы і слухачы Кармы і Веткі, Рагачова і Буда-Кашалёва, Чачэрска, а таксама Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці і Кулікоўскага Чарнігаўскай вобласці.

Ансамбль "Меркулавіцкія вячоркі" з 1993 г. носіць ганаровае званне "народны", мастацкі кіраўнік — Алена Бозікава; мастацкі кіраўнік ансамбля "Чачэрскі гармонік" — Іван Курашоў.

## Гучаць над Садовай песні

Вясковыя аўтэнтычныя гурты на Беларусі — з'ява звычайная, а вось гарадскія, можна сказаць, выключэнне. У Лепелі такі гурт ёсць — на вуліцы з паэтычнай назвай Садовая. У ім усяго чатыры жанчыны: Марыя Ламека, Ганна Тарнаўская, Зінаіда Стэльмах і Праскоўя Дуброўская. Але, як кажуць, "хоць талер маленькі, але даражэнькі" — гэты невялічкі гурт увабраў у сябе разнаквецце традыцыйных спеваў Лепельшчыны і ёсць адным з найбольш самабытных гуртоў рэгіёна паўднёвага Паазер'я.

У кожнай жанчыны свой лёс, але ўсе яны зведалі гора вайны, а найбольшыя выпрабаванні выпалі на долю Марыі Ламека: яна была вязнем Асвенцыма, і дагэтуль, як жахлівы напамін пра тыя часы — лагерны нумар на руцэ. І ўсё ж прыроднае жыццялюбства жанчын, іх неўтаймаваная прага да родных песень зрабілі сваю добрую справу: спачатку быўшы проста знаёмымі, сустракаючыся на вяселлях і ў бяседах, яны з 1987 г. спяваюць разам у нязменным складзе. "Знайшла" жанчын і ў поўную меру раскрыла іх творчыя магчымасці вядомы беларускі этнамузыколаг З.Мажэйка. Ступень валодання мясцовай пеўчай традыцыяй аказалася настолькі яскравай, што жанчыны былі запрошаны ў 1987 г. у Маскву для ўдзелу ў фальклорна-этнаграфічным канцэрце, што адбыўся ў Саюзе кампазітараў СССР, а потым і для ўдзелу ў здымках навукова-папулярных музычна-этнаграфічных фільмаў "Галасы вякоў", "Прынясі, Божа, хмару" і "Крывыя вечары" (аўтар сцэнарыя і навуковы кансультант — Зінаіда Мажэйка).

Асноўная каштоўнасць гурта — мясцовыя абрадавыя песні. Спяваючы іх, жанчыны нібыта маладзеюць, і гэта не парадокс: услаўляючы спрадвечныя святыні сваіх продкаў, пакланяючыся ім, спявачкі чэрпаюць у іх жыццёвую энергію, духоўную моц, якія зноў увасабляюцца ў песню — і ў гэтым сакрэт яе неўміручасці.

Мастацкі арганізатар гурта — Тамара Харкевіч.



Фота Жаны МАЁРАВАЙ.

## Як адна сям'я

Паўднёва-заходні кут рэгіёна Цэнтральнай Беларусі цікавы тым, што ў ім зыходзяцца і пераплятаюцца традыцыі старажытнай культуры, што ідуць з поўдня і захаду рэспублікі. Адна з песенных вёсак гэтага краю — Морач Клецкага раёна, самабытнае мастацтва якой увабрала ў сябе рысы двух названых патокаў. Жывуць тут дванаццаць жанчын, якія шмат год спяваюць разам і моцна сябруюць. Пра сябе кажуць: "Мы як адна сям'я". Гучанне пеўчага гурта з Морачы з іншымі не пераблытаеш — настолькі яно своеасаблівае, як гавораць музыканты, "шчыльнае, злітнае". Нават тыя з песень, што вядомыя і ў іншых рэгіёнах Беларусі, у марачанскім гурце набываюць асаблівую прыгажосць — выдатна, калі справу робяць сапраўдныя майстры. Больш за ўсё любяць спяваць у Морачы лірычныя шматгалосныя песні, але за апошнія часы аднавілі і больш старажытныя — каляндарныя, вясельныя; тут шмат гульняў і танцаў.

Сапраўдны карыфей гурта — Марыя Ціханаўна Полагава. Яна з тых самародкаў, талент якіх, як кажуць, ад Бога. Нават і ў пеўчай Беларусі нячаста сустрэнеш спевакоў такога мастацкага ўзроўню: кожная інтанацыя кожнай яе песні (а іх у яе багата) поўная тонкай выразнасці і сэнсу. Марыя Ціханаўна нібыта "гаворыць" гукамі песні — так бывае, калі чалавек спявае сэрцам. А якая яна майстрыха імправізацыі! Купальскія, жніўныя, вясельныя напевы яна пляце-выплятае голасам, нібы танюткія найкаштоўныя карункі і, разам з тым, колькі ў яе спевах моцы. У хоры Марыя Ціханаўна і запявала, і падгалосак, яе цудоўнае майстэрства надае гурту асабліва гарманічнае гучанне.

Не дзіва, што марачанскія спявачкі вядомыя далёка за межамі свайго раёна: не раз іх песні гучалі на рэспубліканскім радыё, яны ўвайшлі і ў праграму кампакткасеты "Народныя песні Цэнтральнай Беларусі".

Мастацкі арганізатар гурта — Яўгенія Піліпеня.

## Балады і лірыка «Агменя»

Калектыў пачаў свае першыя рэпетыцыі напрыканцы 1991 г. Мэтай яго стварэння з'яўляюцца: захаванне і зберажэнне фальклору Беларусі ў тым выглядзе, у якім ён існаваў; узнаўленне традыцыі жаночага, мужчынскага і змешанага галаснога спеву і традыцыі інструментальнага выканання; наданне паўнавартаснага жыцця жанрам, якім у выканаўчай практыцы не надзяляецца належнай увагі — баладам, гульнёвым песням, сучаснай лірыцы, фалькларызаваным творам.

Зместам сваёй першай праграмы стваральнікі гурта-капэлы "Агмень" (г.Мінск), хацелі б звярнуць увагу слухачоў на той пласт нацыянальнай культуры Беларусі, а таксама асобным жанрам фальклору, стварыць гукавую анталогію беларускай песні і інструментальнай музыкі.

Гурт-капэла "Агмень" прымае ўдзел у святах горада, выставах, прэзентацыях; выступаў на святкаванні 75-х угодкаў БНР, на Першым сусветным з'ездзе беларусаў, на Міжнародным фестывалі "Славянскі базар" у Віцебску, у дні культуры г.Мінска ў Боне (Германія); з'яўляецца лаўрэатам гарадскога фестывалю "Спадчына".

Расшыфроўкі песень і інструментальнай музыкі выкананы Алесем Рашчынскім. Мастацкія кіраўнікі — Алена і Алесь Рашчынскія. Фундатар калектыву — вытворча-камерцыйная фірма "Белнацыяналсэрвіс".

## Як дбаеш, так маеш

"Што край — то звычай, што старана — то навіна" — гэтую прымаўку часта можна пачуць на Беларусі ад вяскоўцаў, калі яны хочуць падкрэсліць тую ці іншую адметнасць сваёй мясцовай культуры. Ведаюць яе і ў в.Аляксандраўка Старадарожскага раёна, дзе здаўна існавала і цяпер не забываецца багатая мастацкая традыцыя. Адметныя яе рысы ёсць вынік спалучэння прыкмет дзвюх рэгіянальных традыцый — усходняй і паўднёвай, якія нібыта перакрыжоўваюцца на землях Старадарожскага раёна. Таму тут распаўсюджаны карагоды, пэўныя тыпы напеваў каляндарна-земляробчага і сямейна-абрадавага цыклаў, свае адметнасці маюць сямейныя абрады, харэаграфічная пластыка, манера спеваў.

Натуральныя носьбіты і выдатныя знаўцы мясцовай традыцыі — канечне ж, людзі старэйшыя. Але, як вядома, як узарэш, так і ўбярэш, як дбаеш, так і маеш, таму намаганнямі мастацкага арганізатара гурта Галіны Аляксандравай да глыбінных пластоў мясцовай культуры зараз далучаюцца аднавяскоўцы сярэдняга пакалення і дзеці.

Захоўваючы свае традыцыі ў натуральных умовах, удзельнікі гурта поўныя жадання пазнаёміць з мастацтвам роднай вёскі як мага больш людзей: яны ахвотна спяваюць жыхарам свайго раёна, іх песні гучалі па радыё, выступалі аляксандраўцы і на цэнтральным тэлебачанні.

У снежні 1993 г. гурт атрымаў ганаровае званне "народны".

## І традыцыя, і сучаснасць абрадаў

Два гурты з Драгічынскага раёна (вв.Скібічы і Гошава) уносяць у яркую палітру фестывалю гукі і фарбы заходнепалескай зямлі. Адметнасць мовы, музыкі, танцаў, адзення прыцягваюць да іх ўвагу.

Скібічане (іх у гурце 15 чалавек) — людзі сталага ўзросту, гошаўцы больш маладыя, але ў звонкасці галасоў, майстэрстве спеваў і скокаў яны адзін аднаму не саступяць. У гошаўскім гурце таксама 15 чалавек, яго аснову складаюць сем'і Клімчукоў, Якутаў, Валошкаў, Ваўкоў.

Абодва гурты — тыя культурныя цэнтры вёсак, дзякуючы якім аднаўляюцца і падтрымліваюцца мясцовыя абрады і звычаі: гэта Каляды, Шчодрык, гуканне вясны, Купалле, зажынкі, дажынкі, вяселле, радзіны. І абрады, і пазаабрадавы час поўняцца песнямі і танцамі своеасаблівай прыгажосці, арыгінальнасці. І скібічане, і гошаўцы ведаюць іх шмат і выконваюць не толькі падчас вясковых святаў, але і са сцэны ў канцэртных выступленнях у розных кутках свайго і бліжэйшых раёнаў. У абодвух гуртах захавалася традыцыйнае мясцовае адзенне, што надае ім асаблівы каларыт.

Мастацкімі арганізатарамі абодвух гуртоў ёсць людзі з творчай душой, адкрытай прыгажосці народнага мастацтва і сэрцамі, поўнымі любові да яго: у скібічан гэта Ядзвіга Паўлючык, у Гошаве — Ніна Клімчук.

## Завадатары мясцовых святаў

Жаночаму фальклорнаму гурту в.Рачыца Бярозаўскага раёна (заходнепалескі рэгіён) амаль трыццаць гадоў. Менавіта столькі часу спяваюць разам Валянціна Мядзведзь, Марыя Пунько, Зінаіда Рудзьман, Людміла Матусевіч і Ніна Амяльчук — старэйшыя спявачкі гурта, знаўцы абрадавых і песенных традыцый сваёй мясцовасці. Сённяшні яго склад — 14 чалавек: да старэйшых далучыліся жанчыны маладзейшага ўзросту, якія не ўяўляюць жыццё без "сваіх" песень, танцаў, прыпевак, дасціпнага жарту, гумару і таму з ахвотай пераймаюць традыцыю ад старэйшых спявачак.

Жанчыны — завадатары і распарадчыцы ўсіх мясцовых святаў, яны ж першыя і ў сваім клубе, дзе таксама шмат спяваюць. Гурт ведаюць не толькі ў Бярозаўскім раёне, ён з поспехам прадстаўляў мастацтва сваёй вёскі і ў Баранавічах, і ў Брэсце, і на рэспубліканскім тэлебачанні. За вялікую прапаганду песеннага фальклору гурт неаднаразова ўзнагароджваўся ганаровымі граматамі і дыпломамі.

Мастацкі арганізатар гурта — Уладзімір Мядзведзь.

КАНТРАМАРКА

# «...я ствараў свой тэатр»

*З галоўным рэжысёрам Рускага акадэмічнага тэатра Беларусі Барысам ЛУЦЭНКАМ гутарыць тэатральны крытык Людміла ГРАМЫКА.*

**Л.Грамыка:** Час змяніўся... Ці здаецца Вам, што новае жыццё па-новаму адбіваецца на тэатры?

**Б.Луцэнка:** Жыццё змянілася, але зрабілася не горшым, а лепшым. Мы цяпер свабодныя. Прынамсі, разважаць і ставіць можна пра што заўгодна. Нават бізнесам займацца, калі ёсць здольнасці, вядома... Справа не ў гэтым... Лепшыя людзі паспрабавалі нешта ў грамадстве змяніць, а, на маю думку, горшыя ўзялі жыццё ў свае рукі. Бо яны больш рызыкоўныя, больш падрыхтаваныя да іншага існавання. Людзі ж, у асноўным, не прыстасаваныя да свабоды, балюча ўсё асэнсоўваюць, моцна прыціснуты абставінамі. Зразумела, і мэты тэатра цяпер некалькі іншыя — не "раскатурхваць сумленне чалавека", як некалі прапаноўваў Таўстаногаў, а будаваць дыялог з гледачом, паяднацца з залай. І мы спрабуем гэта рабіць, шукаем новыя формы. Да прыкладу, на спектаклі "Вечар яўрэйскага анекдота" сустракаем гледачоў кубачкам кавы, бо яны прыйшлі да нас у госці, і падчас дзеі, проста на спектаклі ўзнікаюць самыя нечаканыя і вельмі цікавыя размовы... Мне падабаецца працаваць менавіта так.

**Л.Г.:** Многія лічаць, што гледачу цяпер трэба падаваць нешта прыгожае, кідкае, шыкоўна спакаванае, накшталт тавараў з камерцыйных крамаў. А Вы шукаеце давер і паяднанне?

**Б.Л.:** Галоўнае: ніколі не падпарадкоўваць сябе таму, што "трэба"! Хоць вядома, можна разважаць і так: жыццё кепскае, агіднае, у жыцці шмат бруду, дык зрабіце нам на сцэне прыгожа. Ды толькі гэта не галоўнае — зрабіць на сцэне прыгожа толькі таму, што жыццё бруднае. Я ўвогуле не думаю, што трэба бегаць за гледачом! Не патрапіць гледачу, а зразумець уласную неабходнасць. Вось дзе сэнс. А калі яна, рэжысёрская, супадае з глядацкай цікавасцю — гэта цудоўна.

**Л.Г.:** А як наконт патрабаванняў часу?

**Б.Л.:** Тут вось якая справа: не так і даўно ў жыцці панаваў, умоўна кажучы, "сацыялістычны рэалізм", а ў тэатры мы бачылі абсурдызм, авангардызм, метафарычнасць. Цяпер наадварот — абсурд у жыцці (прыкладам, я так і не змог растлумачыць калегу, які прыехаў да мяне з-за мяжы, чаму на паперках пазначана "сто рублёў", а на самай справе гэта — тысяча), і, мабыць, таму на сцэне пераважаюць простыя паняцці і пачуцці. Ідучы ў тэатр, глядач хоча знайсці ў ім штосьці сваё — сапраўднае, запаветнае, зразумелае: каханне, чалавечнасць, нянавісць... Хоць і гэта не панацэя. Сцэнічнае мастацтва мусіць быць разнастайным, шматаблічным, вынаходзіць новыя формы. Дарэчы, нас, рэжысёраў, справядліва папракаюць у тым, што спектаклі розных тэатраў часам аднолькавыя, невыразныя, аднастайныя. Думаю, што гэтак на тэатральнай эстэтыцы адбілася сістэма. Мы — гэта я найперш пра сябе кажу — звыкла пазбягаем рызыкі, нібыта баімся пайсці новым, невядомым шляхам. Хоць, здаецца, што такі шлях для сябе я, нарэшце, вызначыў. Мне вельмі важна, каб мае спектаклі мелі станоўчую энергію, уздзейнічалі на гледача дабром. Мы абавязаны пастаянна думаць пра духоўнае і маральнае здароўе чалавека, пра тое, як дапамагчы чалавеку выжыць, як уратаваць ягоную душу. Мне нават хацелася б стварыць духоўны цэнтр — адраджэння чалавека. Дарэчы, калі пачынаеш думаць пра кагосьці, больш думаеш і пра сябе, пра сваю душу.

**Л.Г.:** Рэжысёрам апошнім часам падабаецца разважаць пра тое, што стацыянарныя дзяржаўныя тэатры, з вялікімі трупамі і вялізнымі сцэнамі, не надта жыццяздольныя. Бо сёння — і так мяркуюць многія — больш эфектна і лёгка існуюць невялічкія тэатры-студыі, якія больш мабільныя, якія стыхійна ўзнікаюць, іграюць столькі спектакляў, наколькі стае энергіі канкрэтнаму калектыву, а пасля знікаюць, зачыняюцца. Што Вы пра гэта думаеце?

**Б.Л.:** Мяне таксама вабяць малыя формы, і я з задавальненнем працую на малой сцэне. У адным з апошніх маіх спектакляў, у "Братах Моор" паводле "Разбойнікаў" Шылера, мы дасягнулі нечаканага паглыбленага эфекту — наблізіліся да Шылера ў больш падрабязнай, больш дакладнай псіхалагічнай распрацоўцы. Невялікая сцэнічная пляцоўка дазваляе многае зрабіць інакш. Ды толькі, на маю думку, не варта рабіць канчатковыя высновы, нічога нельга абвяргаць. І калі ў рэжысёра ўзнікне жаданне паставіць спектакль на вялікай сцэне...

**Л.Г.:** Тады важна, каб ніхто яму не замінаў, ды грошы знайшліся. А якія ў Вас патрабаванні да акцёраў, з якімі Вы працуеце?

**Б.Л.:** Дзіўная рэч акцёрская прафесія. Яна, бадай, адзіная, у якой усё неабавязкова, усё няпэўна. У акцёра, здараецца, і голасу няма, і пастава не вельмі, і душы не хапае, а ён — іграе, а яго заўважаюць і нават ухваляюць. Хоць, на маю думку, акцёр — гэта найперш чалавек, здатны выканаць любую задачу, якую можа паставіць перад ім аўтар, рэжысёр і ён сам. Задачу тэхнічную, псіхалагічную, якую заўгодна. Вельмі важна, каб акцёр быў маральным чалавекам, каб ён абавязкова разумеў, дзеля чаго штовечар выходзіць на сцэнічную пляцоўку. Гэткім якасцям акцёры нейкім чынам яшчэ адпавядалі ў перыяд застою, калі імкнуліся ўплываць на гледачоў, нешта істотнае да іх давесці, разам асэнсаваць жыццё. Але цяпер, шчыра кажучы, усё інакш: прафесійныя якасці акцёраў вельмі нізкія, узровень акцёрскага дый рэжысёрскага майстэрства прыкметна зніжаецца. Мабыць, праз пэўны час і адбудзецца адраджэнне сцэнічнага мастацтва. Усё пераменіцца. Ды толькі цяпер... на жаль... Больш за тое, з акцёрамі на тэму майстэрства ўвогуле цяжка размаўляць, бо можна пачуць: "А што на гэтую зарплату яшчэ трэба рабіць?" Выйсце знойдзецца, калі прыдуць новыя людзі, апантаныя тэатрам, фанаты, гатовыя працаваць, каб дасягнуць пэўных вышынь у прафесіі. Падрыхтаваныя акцёры могуць рабіць на сцэне цуды.

**Л.Г.:** Вы чалавек жорсткі ў прафесіі?

**Б.Л.:** Быў — жорсткі, асабліва ў маладосці. Вельмі жорсткі і вельмі патрабавальны. Нават самага любімага і таленавітага акцёра я ніколі не падграваў пяшчотнымі словамі. Я казаў толькі праўду, заўсёды ў вочы. Цяпер я — не тое, каб зрабіўся іншым, хутчэй... пачаў разважаць інакш. Ну, што я магу зрабіць, калі ў трупе працуе шмат акцёраў, якія ўвогуле не павінны займацца гэтай прафесіяй? Магчыма, многія з іх былі б шчаслівымі, калі б адкрылі ўласныя крамы... Заняліся бізнесам... Ды толькі не магу я акцёру, нават калі ён працуе на дамове, вось так проста прапанаваць пайсці з тэатра. Мне шкада людзей, якія трапілі ў калаўрот лёсу. Так, рэзкасць мая зменшылася, але, на жаль, гэта ўплывае на якасць спектакляў.

**Л.Г.:** Ці лічыце Вы, што рэжысёрскі лёс Барыса Луцэнкі склаўся ўдала?

**Б.Л.:** Лічу, што на гэтае пытанне нельга адказаць адназначна: удала альбо не. Лёс, вядома, мог быць іншым. Я — рэжысёр. Я шмат гадоў ставіў спектаклі і мала разважаў аб прызначэнні чалавека на зямлі. Цяпер я ведаю, што жыццё не толькі ў прафесіі, не толькі ў дабрабыце, не толькі ў тым, што я зрабіў, таленавіты я альбо бяздарны, маю поспех альбо не... Галоўнае — судакрануцца з вечнасцю, здолець пражыць так, каб душа набыла іншую якасць. Гэта я ўсвядоміў нядаўна, дый тое —крыху. А калі б я зразумеў гэта раней, мяркую, пазбегнуў бы многіх марных перажыванняў. Што тычыцца прафесіі, дык у ёй, вядома, былі ўдачы і няўдачы, узлёты і падзенні, і цяжка сказаць, добра гэта ці кепска.

**Л.Г.:** І ўсё ж мы памятаем Вашы выдатныя спектаклі, якія доўгі час шмат у чым вызначалі ўзровень сучаснага тэатральнага мастацтва ў Беларусі. Магчыма, я зараз задам не зусім карэктнае пытанне: Ваш творчы пік — у мінулым, а можа, наперадзе яшчэ нешта, больш значнае?

**Б.Л.:** Мой педагог, Уладзімір Андрэевіч Маланкін, неяк сказаў пра свайго педагога Аляксея Дзмітрыевіча Папова: "Самы страшны перыяд надышоў, калі ён адчуў сваю вышыню". Калі здавалася, што нічога лепшага ўжо не можа стварыць. Ці мінуў час маёй вышыні?.. Безумоўна, пэўны крызіс я адчуваю. Пэўны крызіс і... пэўную асцярожнасць. Ведаеце, сваю кар'еру ў Рускім тэатры я пачынаў з "Макбета". Мяне адгаворвалі, папярэджвалі, на думку маіх сяброў, гэта было проста нахабства. Я рызыкаваў, і я выйграў. Цяпер рызыкі паменела, і, мабыць, таму творчы патэнцыял ніжэй за мае магчымасці.

**Л.Г.:** Тэатральныя прыхільнасці некалькіх пакаленняў сучасных беларускіх рэжысёраў былі сфармаваныя Масквою, тэндэнцыямі і рэжысёрскімі бурамі, якія грымелі на маскоўскіх падмостках. Думаю, што гэта так, калі не — дык аспрэчце мяне.

**Б.Л.:** Кожны чалавек знаходзіцца пад чыімсьці ўплывам. Я заўсёды захапляўся Меерхольдам. Магчыма, Меерхольд на мяне ўздзейнічаў больш, чым хтосьці іншы. І калі я ставіў "Рэвізора" ў Берліне, я нават у праграмцы хацеў пазначыць: пастаўлена пад уздзеяннем рэжысёрскіх распрацовак Меерхольда. Але ў мяне ўзнікла прынцыпова іншае, сваё вырашэнне. Што да колішняй Масквы... Так, мы сапраўды туды ездзілі, глядзелі спектаклі, стажыраваліся, у нас былі тэатральныя аўтарытэты — Любімаў, Эфрас, Таўстаногаў у Ленінградзе... Але гэта не азначае, што мы нешта пераймалі, пераносілі ў свае спектаклі. Уздзеянне хутчэй было ў раскатурхванні мазгоў, пачуццяў, у адкрыцці нейкіх новых формаў, ды толькі кожны з нас працаваў па-свойму. Каго я пераймаў, калі ставіў "Раскіданае гняздо", "Макбета", "Трохграшовую оперу"? Я ствараў свой тэатр на аснове таго, што я ведаў, што бачыў, на аснове таго, што падказваў мне мой талент і час. Скажу больш, я стварыў сваю схему, сваё ўяўленне аб тэатры, ад якога мне цяпер складана адысці. Але ў сваіх апошніх работах я імкнуся да гэтага, я раблю гэта. І мне хочацца, каб на маіх спектаклях глядач быў далучаны да ўсведамлення сваёй місіі на зямлі. Я хачу змагацца за душу чалавека.




Фота Ф.ШАХЛЕВІЧА.

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©

Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 8000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

